БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 8 (13540)

17 — 23 лютага 1992 года

Цана 1 рубель 50 кап. (па падпісцы — 35 кап.)

У нумары:

Ці прыйдуць да згоды дзяржавы СНД? 3

Вы хочаце купіць кааператыўную кватэру? Наўрад ці зможаце! 4

Ёсць такая партыя — партыя бальшавікоў! 6

Новыя творы маладых паэтаў і празаікаў — у "Крыніцах" 7—10

"Забытая слава", працяг кароткага агляду ваеннай гісторыі Беларусі, падрыхтаваны Г.Штыхавым, М.Ткачовым, А.Дзярковічам і іншымі гісторыкамі. 14

# Хто будзе заснавальнікам "Чырвонай змены"?




**Мы не хочам** рабіць скандалу са "шлюбаразводнага працэсу", які, як бачна па ўсяму, пачнецца паміж нашым штотыднёвікам і ЦК Саюза Моладзі Беларусі. Але ўсё па парадку.

На XXX з'ездзе ЛКСМБ юрыдычна спыніў сваё існаванне заснавальнік "Чырвонай змены"– Цэнтральны Камітэт Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі. Калі, як сцвярджаецца ў дакументах СМБ, арганізацыя змяніла не толькі сваю шыльду, але і сутнасць, то ёсць падстава лічыць, што былога камсамола не існуе. Аднак у рэспубліцы ідзе працэс адраджэння ЛКСМБ. Сёння стала рэчаіснасцю, што камсамол раскалоўся на два крылы, і калектыў рэдакцыі мяркуе, што газета павінна служыць на карысць інтарэсаў усёй моладзі.

Наша газета даўно зарыентавана на захаванне нацыянальнай спадчыны, адраджэнне роднай мовы і не жадае станавіцца аб'ектам палітычнага супрацьстаяння. Мы ўжо не гаворым пра эканамічныя цяжкасці, якія напаткалі рэдакцыю апошнім часам. Ні СМБ, ні ЛКСМБ сёння ўжо не ў стане быць заснавальнікамі, бо не могуць матэрыяльна забяспечыць выданне "Чырвонай змены".Газета існуе дзякуючы дзяржаўнай датацыі. Дапамогу ў гэтай цяжкай сітуацыі нам аказалі перш-наперш Камісія па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета РБ, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Сябры, як вядома, пазнаюцца ў бядзе.

Такім чынам, фармальны заснавальнік даўно ўжо страціў права на заснавальніцтва. Газета існуе дзякуючы дапамозе Вярхоўнага Савета, урада рэспублікі, высілкам рэдакцыйнага калектыву дый нашым чытачам. Зыходзячы з вышэй азначанага, калектыў штотыднёвіка "Чырвоная змена" сам вырашыў стаць заснавальнікам свайго выдання.

Мы прадбачым, што наперадзе – барацьба, перашкоды з боку зацікаўленых арганізацый... Але нашыя спадзяванні грунтуюцца на нашых правах. Паўторым яшчэ раз: чырваназменаўцы не жадаюць рабіць з усёй гэтай гісторыі глебу для плётак. Мы спадзёмся на разважлівасць і добразычлівасць усіх бакоў, прадстаўленых у гэтым канфлікце.

# Адзінаццаць + Шапашнікаў

# С Н Д

Мы з дзяцінства прывыклі: кіраўнікі дзяржаў збіраюцца разам не для таго, каб абмеркаваць нейкія праблемы, а каб проста паставіць свае подпісы пад дакументам, які да гэтага распрацавалі чыноўнікі адпаведных міністэрстваў. На гэты ж раз было па-іншаму.

Сустрэча лідэраў дзяржаў — членаў СНД пачалася яшчэ ў аэрапорце. Неўтаймаваныя журналісты даведаліся, што на парадку дня ў асноўным будзе стаяць пытанне аб войску, і прама ля трапа самалёта закідвалі прэзідэнтаў пытаннямі менавіта на гэтую тэму. Дарэчы, звярніце ўвагу: сярод кіраўнікоў СНД 10 прэзідэнтаў і толькі адзін Старшыня Вярхоўнага Савета — наш Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч. Тыя, хто прывык думаць, што Беларусь пастаянна ідзе ў хвасце Расіі, склалі сваё меркаванне і на гэты раз: Рэспубліка Беларусь падтрымае Ельцынскую пазіцыю — захаванне адзінай арміі. Тым не менш, ужо з раніцы 14 лютага стала вядома, што некаторыя рэспублікі ідэю адзінага войска не падтрымаюць. Прэзідэнт Малдовы Мірчэ Снегур не паспеў яшчэ прайсці і дзесяці крокаў па беларускай зямлі, як заявіў, што любая незалежная дзяржава не можа абысціся без самастойных узброеных сіл. Пачатак быў пакладзены, бо такія заявы ўліваліся ў журналісцкія мікрафоны і тэлекамеры да самага вечара.

Сцюдзёны аэрадромны вецер, здавалася, выдзьмуў з нашых калег рэшткі цярпення, калі сівагаловы Барыс Мікалаевіч выйшаў з лайнера, на якім вялізнымі літарамі была напісана "Россия". Спусціўся па трапу, павітаўся з Шушкевічам і... не кінуўшы нават позірку ў бок прэсы, рушыў у накірунку да чорнага "ЗІЛа". Крыху статыстыкі: *прэзідэнта Снегура, які прыляцеў першым, сустракала менш чым дзесяць журналістаў, а паглядзець у светлыя вочы Ельцына нашага брата сабралася чалавек пяцьдзесят...* Уявіце, які лямант узняўся над змерзлымі журналістамі! Ельцын усё ж такі сказаў некалькі слоў, чым узнагародзіў прэсу за адданае чаканне. Гэта не проста замалёўкі жыцця. Гэта канстатацыя таго, што менавіта Расія Ельцына не толькі юрыдычна, але і фактычна заняла месца былога Савецкага Саюза, адкінуўшы ўбок такія "малазначныя" краіны, як Беларусь, Малдова і г.д.

Як аказалася, усё ж скептыкі памыляліся. У вайсковым пытанні Беларусь разам з некаторымі іншымі рэспублікамі заняла пазіцыю, якая не зусім адпавядае пазіцыі Расіі. Юрыдычна гэта выглядае так: "Канстытуцыйны прынцып Рэспублікі Беларусь — нейтралітэт, у сувязі з чым наша рэспубліка не можа мець з кімсьці агульных узброеных сіл, не можа ўступаць у блокі з іншымі дзяржавамі." На прэс-канферэнцыі, якая адбылася позна вечарам 15 лютага, Станіслаў Шушкевіч заявіў аб гэтым ціха, але цвёрда.

З аэрапорта "Мінск-2" мне давялося ехаць у аўтобусе маскоўскай дэлегацыі. Пад час размовы з адным з экспертаў высветлілася, што дакументы, падрыхтаваныя да сустрэчы , вельмі "сырыя", і ўсё павінна вырашыцца толькі пад час перагавораў. Што вырашылася? Маршалу авіяцыі Шапашнікаву ўдалося ўсё ж на бліжэйшы час захаваць адзіныя ўзброеныя сілы. Гэты ж бліжэйшы час атрымаў назву "пераходны перыяд". Адзінае ж, у чым Шапашнікаў атрымаў абсалютнае задавальненне — гэта ў тым, што дабіўся прыняцця дакументаў аб сацыяльнай абароне ваеннаслужачых. Відаць, выбухаў незадавальнення ў арміі ў бліжэйшыя месяцы не будзе.

Але народ чакае не гэтага. Людзі прагнуць навядзення парадку ў эканоміцы. Сярод 20 дакументаў, якія былі падпісаны ў будынку былога ЦК КПБ, былі і эканамічныя пагадненні. Як заявіў на прэс-канферэнцыі прэзідэнт Украіны Краўчук, цяпер прадпрыемствам розных рэспублік, дадзена магчымасць супрацоўнічаць без усялякіх абмежаванняў. Будзем спадзявацца, што інтэграцыя, разбураная палітычнымі працэсамі, пачне аднаўляцца. І ўсё ж большасць эканамічных пытанняў перанесена на чарговую сустрэчу лідэраў СНД, якая адбудзецца ў Кіеве.

Усіх цікавіць, што ж будзе з Чарнаморскім флотам? Л.Краўчук бескампрамісна заявіў, што Украіна прэтэндуе толькі на тую частку флоту, якая неабходная для аховы яе марскіх граніц. Ельцын на гэта не адказаў нічога. На прэс-канферэнцыі яго проста не было.

Ці можна думаць, што блытаніна, якая існуе ў адносінах паміж рэспублікамі, нарэшце прымае абрысы пэўнага парадку? Аб гэтым гаварыць рана. Ну як, адкажыце мне, могуць удзельнічаць у Садружнасці Арменія і Азербайджан, калі прэзідэнт апошняга прама з-за стала перагавораў прымушаны ляцець у Баку, каб кантраляваць чарговы выбух ваенных дзеянняў у Карабаху? Хто ж рассячэ гэты "гордзіеў вузел"? Зараз ні ў каго не хапае самаўпэўненасці, каб даваць з гэтай нагоды аптымістычныя прагнозы. Сустрэч, падобных мінскай, будзе яшчэ шмат. Сапраўды,час брацца за розум настаў.

**Алесь Палынскі.**

**Фота С.Брушко.**

**На здымках:**

- Мірчэ Снегур сцвярджае...
- Добры вечар, Барыс Мікалаевіч.
- Пачатак сустрэчы ў былым ЦК КПБ.
- Як справы, прэзідэнты?
- Не з усіх чырвоных сцягаў яшчэ пашытыя кашулі.












# «НАМАЛЮЮ САБЕ ДОМ...»

*Пры любым сацыяльна-эканамічным ладзе, пад любымі лозунгамі і на шляхах да любой светлай будучыні людзі мараць мець дах над галавой, сваю ўласную кватэру. Па дваццаць і болей год даводзіцца чакаць, пакуль падыдзе чарга і яны атрымаюць запаветныя ключы, якія пасля стольніх год чакання становяцца сапраўды залатымі. Таму зразумела жаданне паскорыць гэтае салодкае імгненнё, наблізіць яго. Сёння такая магчымасць ёсць — кватэру можна набыць. Толькі як, за колькі і каму дазволена гэта зрабіць? Па адказы я звярнуўся да загадчыка вытворчага аддзела ўпраўлення жыллёвай гаспадаркі гарвыканкама Ларысы Васільеўны ПРУДНІКАВАЙ.*

**– Скажыце, калі ласка, Ларыса Васільеўна, ці можна набыць афіцыйна кватэру за валюту?**

— Ніводнага рашэння, якое б гэта дазваляла, няма. Продаж кватэр праходзіць адпаведна з пастановай № 67 Савета Міністраў.

**– А ці праўда, што пры гарвыканкаме існуе асобная чарга, дзе стаяць людзі, якім набыццё кватэры афармляецца як за савецкія рублі, але плацяць яны валютай?**

— Мне нічога пра гэта невядома, але наўрад ці такое магчыма.

**– Што неабходна для таго, каб набыць кватэру ва ўласную маёмасць?**

— Самая галоўная ўмова — пастаянная мінская прапіска. Акрамя таго, вы павінны стаяць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. У райвыканкамах вядзецца ўлік усіх, хто жадае набыць кватэру, але ў першую чаргу дазваляецца выкупляць тыя кватэры дзяржаўнага фонду, якія валодаюць паніжанымі жыллёвымі якасцямі (прахадныя пакоі, сумешчаныя санвузлы, негабарытныя кухні і г.д.). Адзначу — выкупляюцца толькі кватэры дзяржаўнага фонду. Але, прынамсі, свабоднага рынку кватэр у нас пакуль яшчэ няма.

**– А ці існуюць ільготы пры набыцці кватэры?**

— Безумоўна. У першую чаргу могуць выкупляць свае і набываць іншыя кватэры ўдзельнікі вайны, перадавікі вытворчасці, звольненыя ў запас і інваліды па стану здароўя.

**– А хто вызначае, колькі каштуе кватэра?**

— Ацэначная камісія, якая створана пры кожным райвыканкаме. Туды ўваходзяць прадстаўнікі райвыканкама, жыллёва-эксплуатацыйнай службы, службы тэхнічнай інвентарызацыі і іншыя ўпаўнаважаныя асобы.

**– Растлумачце, калі ласка, як і што трэба рабіць, каб выкупіць жыллё?**

— Неабходна напісаць заяву на імя старшыні райвыканкама, узяць даведку аб складзе сям'і ў ЖЭСе і характарыстыку сваёй кватэры. Пасля гэтага ацэначная камісія вызначае, колькі каштуе кватэра, і ўзгадняе лічбу з гаспадаром кватэры, пасля чаго райвыканкам прымае рашэнне аб продажы. Уладальнік пераводзіць дамоўленую суму на рахунак ЖЭС, а той у сваю чаргу на працягу месяца — у раённы бюджэт. Пасля ўсяго ў натарыяльнай канторы складаецца акт куплі-продажу, і новаму гаспадару выдаюцца ўсе неабходныя дакументы.

**– А хто будзе тэхнічна абслугоўваць кватэру?**

— Новы гаспадар павінен падпісаць у ЖЭСе дагавор на такое абслугоўванне.

**– Калі, напрыклад, я развёўся з жонкаю і маю намер набыць кватэру. Ці можна мне гэта зрабіць?**

— Толькі ў тым выпадку, калі вы стаіце ў райвыканкаме ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў.

**– Як вы лічыце, ці захаваецца ў далейшым дзяржаўнае будаўніцтва кватэр? Альбо будзе толькі кааператыўнае?**

— Ходзяць розныя чуткі, але ніякіх дакументаў пакуль што яшчэ няма. Я лічу, што захаваецца і тое, і другое будаўніцтва.

**– Ці нармальна гэта, калі пярвічны ўзнос за двухпакаёвую кааператыўную кватэру складае 60 тысяч рублёў? Ці ёсць у простых людзей такія накапленні?**

— Канешне, не. Але ж вы самі ведаеце, што кошт будматэрыялаў вырас у 7—9 разоў.

**– Ці можа хто-небудзь атрымаць кватэру ва ўласную маёмасць бясплатна?**

— Такое магчыма ў двух выпадках: для інвалідаў ВАВ, якія маюць не болей як дваццаць квадратных метраў агульнай жыллёвай плошчы на кожнага члена сям'і, і тым, каму выдзелілі дзяржаўныя кватэры ўзамен знесеных уласных дамоў, але яны не атрымалі за гэта грашовай кампенсацыі. Апошняя ўмова не распаўсюджваецца на нашчадкаў былых гаспадароў уласных дамоў.

**– Апошняе пытанне, Ларыса Васільеўна: ці выкупілі б вы самі сваю кватэру?**

— Я б выкупіла абавязкова. Адзінае што: мая аднапакаёвая кватэра дзеля гэтага не падыходзіць.



**Зм.Лукашук.**

*НАШЫ КАЛЕГІ*

# "НКВ" — ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС, ДЗЕЛАВЫЯ ЛЮДЗІ!

Пяць месяцаў – ці шмат гэта? "Дастаткова для таго, каб сур'ёзна заявіць аб сваім існаванні",– лічыць рэдакцыйны калектыў "Навукова-камерцыйнага весніка", які пачаў выдаваць у верасні мінулага года сваю газету. З'яўленне новага выдання заўсёды прадвызначае два галоўныя пытанні ў тых, хто, прагледзеўшы шэраг інфармацыйнай прадукцыі, зацікавіўся незнаёмай назвай. Якія мэты мелі стваральнікі "Нованароджанага"? Які шлях вызначыў рэдакцыйны калектыў? І, як кажуць, каму, як не ягонаму выдаўцу, прасвятліць дадзеную сітуацыю?

**На пытанні адказвае дырэктар Беларускага цэнтра абслугоўвання навуковых даследаванняў Аляксандр СЫШЧАНКА.**

*— Скажыце шчыра, навошта вам спатрэбілася свая газета? Няўжо мала ў кіёсках розных камерцыйных выданняў з самай разнастайнай рэкламай?*

— Мне здаецца, што назва нашага цэнтра, які мае больш чым дзесяцігадовы вопыт работы на рынку навукова-тэхнічнай інфармацыі, гаворыць сам за сябе. "НКВ" — гэта эфектыўны канал распаўсюджвання рэкламы навукова-тэхнічнай прадукцыі. Кола нашых пантэнцыяльных падпісчыкаў — шматлікія навукова-даследчыя арганізацыі і прамысловыя прадпрыемствы, усемагчымыя інстытуты і цэнтры, ад гігантаў да невялікіх кааператываў і малых прадпрыемстваў у нашай краіне і за мяжой.

Наша газета мае сваю асаблівасць — вы не зможаце набыць "НКВ" у кіёсках "Саюздруку". Яна дасылаецца толькі падпісчыкам, якія вырашылі ўступіць у нашу інфармацыйна-рэкламную сістэму.

*— Растлумачце, калі ласка, сваю думку. Што гэта значыць?*

— Сістэма дае магчымасць звязаць у адзіную сетку вытворцаў і спажыўцоў навукова-тэхнічнай прадукцыі, што дазваляе прадпрыемствам не толькі рэкламаваць сваю прадукцыю, але і заказваць неабходныя тэхналогіі, прыборы, спецыяльнае абсталяванне (ёсць жа яшчэ, нягледзячы ні на што, у нашай вытворчасці людзі, якія зацікаўлены ў яе мадэрнізацыі), а распрацоўшчыкам (ВНУ, інстытутам, асобным даследчым групам) — рэкламаваць распрацоўкі, падрыхтаваныя для ўкаранення.

"НКВ", такім чынам, можна параўнаць з люстэркам, у якім адлюстроўваюцца і патрэбнасці вытворчасці, і рэальная каштоўнасць той ці іншай распрацоўкі.

*— Ці нельга праілюстраваць вашыя словы канкрэтным прыкладам?*

— Калі ласка. Напрыклад, вы — галоўны тэхнолаг прадпрыемства. А на любым з іх існуе маса тэхналагічных праблем. І з нашай дапамогай вы хутка знойдзеце прафесіяналаў, здольных у самыя кароткія тэрміны вырашыць вашы цяжкасці. Вы змяшчаеце ў газеце заказ, а ўжо распрацоўшчыкі знаходзяць вас самі. Зразумела?

*— Цалкам. А як гэта можна зрабіць?*

— Няма нічога лягчэй. Трэба толькі аформіць падпіску на "НКВ", заплаціўшы ўсяго 998 рублёў за год, і вы ўключыцеся ў нашу сістэму.

*— А ці не вельмі дорага мне гэта абыдзецца?*

— Вы дарэмна так іранізуеце. Па-першае, у звычайных выданнях за разавае змяшчэнне рэкламы вы заплаціце нашмат больш. Па-другое, аўдыторыя штомесячніка — гэта не хатнія гаспадыні, а сапраўдныя дзелавыя людзі — навукоўцы, распрацоўшчыкі, вытворцы і г.д. Акрамя таго, вы набываеце права бясплатна публікаваць свае рэкламныя аб'явы на працягу года на нашых старонках і спецвыданнях на замежных мовах. Пры гэтым усе работы па рэдагаванню, афармленню і перакладу аб'яў рэдакцыя бярэ на сябе. Ваша справа толькі заказваць рэкламу. Гэта абыдзецца вам прыкладна ў 5-10 разоў танней, чым у іншых выданнях. Плюс да таго — перспектыва выхаду на міжнародны рынак інфармацыі.

Праўда, ёсць і іншы варыянт падпіскі. Можна заплаціць усяго 198 рублёў, але кожнае змяшчэнне рэкламы будзеце ўжо аплачваць дадаткова з разліку існуючых рынкавых цэн.

*— Цікава, якая сфера ўплыву вашай газеты?*

— "НКВ" распаўсюджваецца на тэрыторыі Беларусі, Украіны, еўрапейскай часткі Расіі. Ужо ёсць падпісчыкі ў буйных прамысловых цэнтрах Урала і Сібіры. З часам спадзяёмся на значнае павелічэнне тыражу.

У ліку прапануемых намі паслуг — "Прэзентацыя фірмы". Так, да прыкладу, у першым нумары мы прадставілі Фізіка-тэхнічны інстытут Акадэміі навук Беларусі — вядучы ў гэтай галіне навукі. Акрамя яго, сваю рэкламу далі такія буйныя "фірмы" — Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут, Кіеўскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці, Мінскі радыётэхнічны тэхнікум, малыя прадпрыемствы "Экаінкам", "Альбатронікс", "Экста", НТА "Палітэхнік" з Мінска і шмат іншых. Яны прадставілі розныя тэхналогіі і інструменты, аўтаномныя праграмныя прадукты, аўтаматызаваныя працоўныя месцы і г.д. Іх рэклама — скарб для дзелавых людзей. Выпісаўшы "НКВ", апошнія пазбаўляюцца ад неабходнасці перагортваць горы неспецыялізаваных рэкламных выданняў, дзе за абывацельскімі рубрыкамі "Куплю-прадам-мяняю" зацікаўленаму чалавеку нават цяжка арыентавацца.

*— І якія першыя вынікі? Не баіцеся "прагарэць" з "НКВ"? Ці апраўдвае сябе газета?*

— Ведаеце, на першым часе для нас нашмат важней не прыбыткі, а ўключэнне ў нашу інфармацыйна-рэкламную сістэму як мага больш людзей і фірм, г.зн. атрыманне такой неабходнай інфармацыі самім цэнтрам. Акрамя таго, займаемся спонсарскай дзейнасцю. Напрыклад, выпісалі сто экземпляраў газеты "Паветраны вартавы" для пераможцы агляду-конкурсу на лепшую вучэбна-матэрыяльную базу — воінскага калектыву, які ўзначальвае афіцэр А.Міхайлаў. Тым самым мы вырашылі стымуляваць далейшы ўдзел воінаў, большасць з якіх складаюць нашы землякі, у навукова-тэхнічнай творчасці. Не сакрэт жа, што ў іх ліку — нашы патэнцыяльныя падпісчыкі, змена сённяшнім распрацоўшчыкам і заказчыкам новых тэхналогій і прадукцыі.

*— Аляксандр, вялікі дзякуй за інтэрв'ю. Шчыра жадаю поспеху вашаму цэнтру і маладой газеце! А тым, каго зацікавіла новая рэкламна-інфармацыйная газета, па сакрэту паведамляем адрас: 220050, г.Мінск-50, а/с 135. Кантактны тэлефон: 26-55-54.*

**Гутарыў Аляксей Безвясельны.**



Лапцевая пошта

# Пра тое, як я рашыў бабылём застацца





*У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ "ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"*

*Шаноўныя рэдактары! Даруйце мне, вясковаму чалавеку, што не з вялікага розуму ў газету палез, а з-за доўгіх, як у таго зайца, вушэй ды моцнае, каб яна хварэла, дапытлівасці. Гора, як кажуць, і прымусіла. Толькі ж я не пісьменнік які, не падумайце, каб за здарова жывеш паперу гвалтаваць, не вунь і так, кажуць, на купоны не хапае. А таму ў сваіх лістах пастараюся коратка ды ясна, як, бывала, Ільіч на партыйным з'ездзе, абмалёўваць вам усю вастрыню сучаснага моманту і пастаўіць пытанні, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння. Найперш хачу заверыць, што з умовамі ліставання азнаёмлены і таму ніякіх там фактаў, цытат, эканамічных звестак, асабістых імён ці, крый Божа, геаграфічных назваў ды іншай крамолы, якая не падлягае адкрытай публікацыі, ужываць не буду, бо, шчыра кажучы, не зусім дакладна ведаю, якога роду адказнасць нясуць за яе падобныя мне небаракі-аўтары, а таму не хачу лезці на ражон. Лепей ад граху падалей.*

## Ліст першы

Праўда-праўда! Каб мне з гэтага месца не сысці, і турбуе мяне цяпер, дарагія рэдактары, адно-адзінюсенькае пытанне. Помніце, быў такі падатак — халасцяцкім называўся. А ў народзе, калі між намі, ахрысцілі яго, прабачце, падаткам на тое месца, якім дзяцей стругаюць. Помніце ж, збіраліся яго ўсё адмяніць — гуманная такая акцыя была з боку дзяржавы. Дык ці праўда, ці не, даражэнькія, плешчуць людзі, а на кожны раток не накінеш платок, нібыта падатак той ізноў вяртаюць і пакрываць яго будуць мужыкі ці то беларускімі купонамі, ці то амерыканскімі далярамі — адна трасца. Свят-свят, рад бы не паверыць, ды лапцевая пошта трубіць, а пры нашым перадохшым сацыялізьме якіх толькі цудаў не бывае. Падзешавела ж вунь электрыка ў чатыры разы, каб затым падаражэць у восем. Падзешавеў жа газ, каб узяць дый знікнуць назад у нетры...

Не ведаеце, што такое лапцевая пошта? Авой, родненькія, па ўсім відаць, у вёсцы не жылі. А гэта, да прыкладу, як у вас "Саюздрук" — служба такая па распарсючванню навін нашага літайпнага агенцтва АБС (Адна Бабка Сказала).

Ды я не аб тым. Нядаўна во да сябра на вяселле ездзіў. Ой, што я вам зараз распавяду — цэлая гісторыя. Слухайце ж...

Мой сябрук, ладны такі дзяцюк і ў гадах, ледзьве быў бабылём не застаўся. А ўсё праз дурную галаву, тады, як у крамах застой працвітаў і глыбокая дэпрэсія, не сабраўся, а ці яму дзевак не было. Кажуць разумныя людзі: не адкладвай на заўтра тое, што можна зрабіць да перабудовы. Не слухаў, бугай. Знайшоў нарэшце дзеўку — ды бяда, зніклі касцюмы ў краме, пакуль бегаў, касцюм шукаў, зніклі чаравікі, не ісці ж да шлюбу ў палапленых шкарпэтках, пакуль стаяў у чарзе па чаравікі, на табе, заручальныя пярсцёнкі перайшлі ў разрад прадметаў раскошы, пакуль збіраў грошы на тую раскошу, натуральна, знікла сама дзяўчына. Дальбог, кругаварот вады ў прыродзе. Так, дзяўчаты — не дэфіцыт, але ж не чаравікі, па візітоўках не выдаюцца. І вырашыў мой сябрук на гэты раз хітрэйшым быць, як-ніяк старога вераб'я на мякіне не ашукаеш.

І давай ён запасы рабіць, так сказаць, на чорны дзень, ці, як любяць казаць сельсавецкія "папы", на самы светлы ды радасны дзень у ягонай маладой жысці. Надыбаў касцюмаў — хоць ты ў лекцыянеры запісвайся, чаравікамі ўвесь запечак зафундоліў, кашуль у яго, як даўней у карабейніка. Больш таго, вам скажу, ясныя-яснюсенькія віды паявіліся ў хлапца на сваю ўласную кватэру. Бо рай у будане, гэта, казаў, ат... ат... атравізм. І чаго ж яму, людцы, не хапала, скажыце? А жонкі яму не хапала. Але чакайце — не час яшчэ. На вяселлі тыя чаравікі грызці не будзеш ды кашулямі закусваць. Памятаеце ж, як даўней казалі:

*І я там быў, мёд-піва піў...*

Кінуўся небарака па мёд ды па піва, а тут яго рынак хапе за каршэнь. Адчуваеце ўсю вастрыню сучаснага моманту? Ляжыць піва, узяць нельга, бо ў сярэдзіне цэннік. Ляжыць сабе і кусаецца. А як жа, за сем рублёў і пляшка каго заўгодна ўкусіць. Здэцца шчэ і не піў, а ўжо галава ў скокі пайшла. Адшпіліў, карацей, хлапец ладны кус — купіў піва. Тым часам ехаць па мёд нешта расхацелася. А навошта ён нам, эсэндэнаўскім людцам, той мёд? Ды супроцьпаказаны. Ды халяргія ў нас на яго. А ўключыце лепей тэлевізар, а прыслухайцеся, як складна дзядуля Барыс казкі расказвае пра залаты рынак і разбітае карыта — і жыццё мёдам пакажацца. Ня пі, ня еш і з хаты ня лезь.




І не палез бы з хаты, ды вось жаніцца, халера, прыспічыла. Паехаў мой сябрук па гэты, як яго, забыўся зусім. Яшчэ загадка пра яго ёсць: не лае, не кусае і ў хату не пускае. Ага, успомніў: сервеблат-кілбаса такая вэнджаная, адзін кэгэ за дзвесце рэ. Карацей, ажаніўся хлопец, дадому прыехаў з тэй кілбасой — маці ў хату не пусціла, не прызнала: стаіць з сервеблатам, але без штаноў. Э, не, думае хлапец, жонка не маці, і без штаноў не ацураецца, пад коўдраю яно там не відаць. Толькі за сталом на вяселлі ўсядзець, каб чаго не западозрылі. А для гэтага трэба, каб людзі добра вочы пазалівалі. І адным півам тут не абыдзешся. Кінуў хлапец работу ґ заняўся, так сказаць, індывідуальнай працоўнай дзейнасцю, балазе закон цяпер на яго баку. А што ж я, сабе думае, дурней за дэмакрата, прадпрынямацелем не магу стаць? А закон — ён як дышла, мае вы людцы, куды павярнуў змеявік, туды гарэлачка і выйшла...

І прывёз ён сабе дзеўку добрую, і згулялі яны вяселле па-людску.

*Ещце, сваты, рэпу,*
*У нас морквы нету,*
*Была свіння Ксіння,*
*Паела націння,*
*Быў парсюк Воўка,*
*Паеў усю моркву...*

Як нагледзеўся я, даражэнькія рэдактары, тога вяселля, як наслухаўся — стала мне горка без гарэлкі. "Горка" — крычу. Ажнуль гляджу: спалатнеў мой сябрук, а ўставаць з-за стала, цалавацца-мілавацца не спяшае. Глядзіць на мяне, як на ворага лютага, а мне і няўцям. Каб жа я, дурань, ведаў, што ён у палажэніі... Ой ты, барыня-маскоўка, без штаноў хадзіць нялоўка.

А для чаго вам усё распавядаю, шаноўныя рэдактары? Бо, адчуваючы ўсю далікатнасць сучаснага моманту, адважуся ўсё ж запытацца ў вас, мо чулі там у сталіцы, га? Кажуць, увесь пераходны перыяд маладым да шлюбу будуць выдаваць з двух адно; двухспальны ложак альбо штаны, заручальныя пярсцёнкі за паўцаны альбо скрыню гарэлкі. А ў парадку гуманітарнай дапамогі — амерыканскі прысерваціў шматразовага карыстання, калі панюхаеш яго, пахне бананам, а на смак — наша морквіна. А яшчэ, кажуць, уводзіцца мода новая: за вясельным сталом заміж каравая купоны дзяліць.

Калі так, то я, браточкі, тады цур у бабылях застаюся. І што вы думаеце — не прайграю. Тут, родненькія, эканамісты ўсё дакладна пралічылі, дай ім Бог не хуткай адстаўкі. Эканамісты — залатыя людзі, яны ведаюць, што мне на квартал трэба 0,3 кэгэ мыла туалетнага, на месяц — 0,2 кэгэ алею, на тыдзень — 0,000001 жонкі ўласнай. Хочаш болей — калі ласка, толькі ў кааператараў і за свабодна канверсаваную валюту. Ды ў мяне цяпер не жыццё, а нарыхтпромаўская маліна. Эканамісты падлічаць, колькі мне трэба з'есці, астролагі раскажуць, куды лепей заўтра пайсці — ці на той свет, ці на чарговую прэзентацыю, парламентарыі нагадаюць, колькі мне трэба ўзяць зямлі ў індывідуальнае карыстанне, акурат каб іх саміх на той зямельцы пракарміць. Скончылася гарэлка? Няма праблем. Бярэш пустую пляшку, наліваеш чыстай вадзіцы і... крэксфэкс-пэкс, Алан Уладзіміравіч, дапамажы. (І як мой сябрук не дадумаўся?). Скончылася рэклама на тэлевізары — сядзі, чакай новай, Менатэп, Інкомбанк, Абракадабра — я іх усіх на памяць вывучыў. Скончылася цярпенне...

Дарэчы, шаноўныя рэдактары, ці не падкажаце, баюць людзі, нібыта цярпення ў народа засталося з гулькін нос і хутка яго будуць выдаваць па кіло на рыла і з прад'яўленнем пашпарта. Не чулі, га?

На гэтым, ведаючы, што вы людзі дзяржаўныя, занятыя, заканчваю. Даруйце, калі што не так.

З павагай

**Міхась Валоха з-пад Лепля.**

АД РЭДАКЦЫІ: Ліст друкуецца з захаваннем аўтарскага стылю і арфаграфіі.

# ЧЫРВОНАЯ МАГІЯ

*Вечарам таго ж (дарэчы, зусім звычайнага) дня мне патэлефанавалі. "Ненавідзець ворагаў лягчэй і больш захапляльна, чым любіць сяброў, — спёхам, пад брынканне тэлефона-назолы я дачытвала апошні абзац. — Ад людзей жа, якія больш заклапочаныя вынішчэннем працаўніка, чым удасканальваннем гэтага свету, наўрад ці можна дачакацца вялікага дабра". Са шкадаваннем ледзь адарвалася ад кніжкі, бо лямант "набытку цывілізацыі" нахабна не змаўкаў і, здаецца, здолеў бы ўзняць нябожчыка з магілы. На стрыманае "алё" з трубкі шпарка вымавілі, відаць, загадзя падрыхтаванае: "Вечар добры, гэта — Лапін Аляксандр Аляксандравіч. Памятаеце, мы сёння з вамі ўжо размаўлялі". "Размаўляць размаўлялі", — адразу падумалася мне, але іншая здагадка перабіла першапачатковы ход думак, і я недаўменна запыталася: "Адкуль у вас нумар майго тэлефона?". І што ж, шаноўнае спадарства, давялося пачуць у адказ на ўпаўне законнае, па-першае, а па-другое, зусім цнатлівае пытанне: "Вы недаацэньваеце партыю, з якой маеце справу", — шматзначна, нат какетліва, абвясціла "слухаўка". Пасля гэтых слоў у мяне, пэўне, павінны былі расшырыцца зрэнкі, бо я абавязкова ўяўлю сабе — "Аўрора" на Свіслачы, жэрлы гарматаў нацэлены на штаб каардынацыйнага цэнтра СНД, вось-вось грымне выбух...*

8 лістапада 1991 года ў Санкт-Пецярбургу сабраўся ўстаноўчы з'езд Усесаюзнай Камуністычнай партыі бальшавікоў. З дакладам "Сучасны момант і нашыя задачы" перад дэлегатамі выступіла Старшыня аргкамітэта бальшавіцкай платформы Ніна Аляксандраўна Андрэева. Гісторыя, здаецца, рушыла ў зваротным напрамку. Нештачка знаёмае, сапраўды, да болю: далёкае, але не забытае, сыходзіла з вуснаў Ніны Аляксандраўны, абранай, поруч з новым ЦК адроджанай партыі, Генеральным сакратаром ЦК ВКП(б). "Дарагія таварышы! Кастрычнік 1917 — зорная часіна народаў Расіі — абвясціў пра пачатак новага этапа ў гісторыі чалавецтва, пра пачатак эры радыкальнага вырашэння сусветнага антаганізму паміж Працай і Капіталам, эры перамогі Розуму над Сілай. І не віна расійскага рабочага класа і яго правадыра — Леніна, што да царства Розуму працоўным прыйшлося ісці са скарыстаннем сілы, ломкай супраціўлення памешчыкаў, банкіраў, заводчыкаў, папоў і купецтва. Стары свет прыгнечання не здаваўся, не ішоў на кампрамісы, і таму пралетарскай рэвалюцыі не заставалася іншага выйсця, як падаўленне і знішчэнне класавага праціўніка, які вёў барацьбу не на жыццё, а на смерць". Чарговы зварот чарговага Генеральнага сакратара з нагоды чарговых, 74-х, угодкаў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі да савецкага народа. Падобна, гісторыя вырашыла паўтарыць адну са сваіх трагедый, толькі ў выглядзе фарсу. Ізноў "падаўленне і вынішчэнне класавага праціўніка"? Мароз па скуры ад гэтай непарушнай упэўненасці ў святой догме-дамінанце — класавай барацьбе. Ёсць людзі, якія чакаюць новай рэвалюцыйнай сітуацыі? Прыспешваюць яе? Пэўне, каб паўтарыць "зорную часіну". Хто ж ворагі адроджаных рэвалюцыянераў, якія, нягледзячы на прыняты імі зневажальны назоў "гарбастройка", "выйшлі з падполля" (нешта пра іх раней не было чуваць) менавіта з прыходам да ўлады Гарбачова. Ворагі неабальшавікоў — "цяперашнія дачаснікі-антыкамуністы, наступнікі зрынутых рэвалюцыяй класаў, якія па-жульніцку сталі на чале ўлады... Наш патрыятычны і інтэрнацыянальны абавязак — узняць перамаганосны сцяг Леніна, выкінуты апартуністамі і здраднікамі, згуртаваць пад ім камуністаў і працоўных, закласці асновы адраджэння аднаўленай Сацыялістычнай Радзімы". Такім чынам, прапануецца яшчэ адзін "аднаўлены сацыялізм". Няўжо вы самі, спадары камуністы, не адчуваеце, што няма аніводнага слова з камуністычнага лексікона, якое было б святым для мінулых пакаленняў і якое б не спаскудзілі ў вачах людзей пад час панавання КПСС вашыя ж паплечнікі. Ды й сёння на чале парламентаў 12 былых рэспублік былога Саюза — былыя партфункцыянеры, выхаванцы не "дэмакратаў", а роднай Камуністычнай партыі, дый парламентары ў сваёй большасці — тыя самыя "здраднікі" — былыя камуністы, а калі шырэй — дык "здраднікі" ўсе, хто з маўклівай абыякавасцю сузіраў скон партыі авангарднага тыпу. А сузіралі гэты скон даволі спакойна і гегемон-пралетарый, і ягоны саюзнік—селянін, дый вечна рэфлексуючая праслойка — інтэлігент.

Спадара Лапіна, члена ЦК ВКП(б) (Усесаюзнай камуністычнай партыі бальшавікоў), перад вяртаннем з Мінска ў Маскву цікавіла, калі выйдзе матэрыял і ці здолее Маскоўскі візаві ўласнаручна набыць асобнік "ЧЗ". Наш штотыднёвік пакуль (крый Божа) працуе не ў падполлі і штопятніцу легальна з'яўляецца перад кіёскавымі акенцамі. Набыць можна. Дый "усесаюзнай" партыі з та-а-а-кімі магчымасцямі вышукаць асобнік "ЧЗ", маючы Беларускі камітэт і "таварышаў па партыі" тут, у Мінску, пэўне, не праблема. Таму тэлефонны запыт падаўся мне своеасаблівай дэманстрацыяй сілы, магчымасцей дый жадання паўплываць на змест будучага артыкула (бледны адбітак колішняга перамоганоснага тэлефоннага права?). Хаця, мажліва, я перабольшваю. Калі так, то маё перабольшанне — даравальнае, бо яно — заканамерны вынік "партыйнасці літаратуры", шматгадова ажыццяўляемай Кампартыяй у прэсе.

Так, ёсць людзі, якія чакаюць рэвалюцыйнай сітуацыі, прыспешваюць яе. І можна не сумнявацца, што ў выпадку няздольнасці цяперашніх "вярхоў" палепшыць жыццё людзей, гранічнай незадаволенасці "нізоў" "вярхамі" яны могуць знайсці, дый ужо знайшлі (апошні шматтысячны мітынг у Маскве) спачувальнікаў. Закрываць на гэта вочы, закалыхваць сябе песнямі, што дэмакратыя больш прыцягальная, чым таталітарызм, — мала.

Страшна страціць набытае, страшна не набыць страчанае. Кожны крок аддае рэхам у будучыні. Мы — на хісткім мастку, не скажу, над прорвай (хаця сада-мазахісцкія эпітэты палітыкаў гучаць штодня — катастрофа, бездань, слоўныя перастрэлкі Кіева, Масквы, збройныя — Баку й Ерэвана і г.д.). Усё гэта ўзводзіцца ў неверагодную ступень узаемных пагроз пра яшчэ большыя небяспекі. Перш чым шпурнуць людзей у мясарубку, узважвайце ўсё, палітыкі.

Хто такія бальшавікі? Бальшавікі былі для свайго канкрэтна-гістарычнага перыяду як апазіцыя перш-наперш для царызму — самае паслядоўнае, самае крайняе непрыманне самадзяржаўя. КПСС узнікла на рэштках бальшавізму пасля Кастрычніка й грамадзянскай вайны, яе функцыянальная роля ў грамадстве была зусім іншая — гэта кшталт сярэднявечнага ордэна з інквізіцыяй да іншадумцаў. Без меншавікоў не стала й бальшавікоў у першапачатковым, "чыстым" сэнсе гэтага слова. А для бальшавікоў самым характэрным было непрыманне сацыяльнага паразітызму. Страта гэтай рысы, як вядома, у многім прывяла КПСС да краху.

Сапраўдны сацыялізм — ісцінны незамутнёны апартунізмам існаваў, па меркаванню "нінаандрэеўцаў" да XX з'езда партыі. Тры ж апошнія гады савецкае грамадства зведвала дробнабуржуазны ўплыў. "Ідэалагічнай уверцюрай рэстаўратарскіх працэсаў (сённяшніх, маецца на ўвазе. — ад аўт.) і стала антысталінская кампанія, якая разгарнулася пасля XX з'езда КПСС. Гэта кампанія прывяла да падрыву аўтарытэту сацыялізму, сур'ёзных цяжкасцей у сусветным камуністычным руху, канфрантацыі з Кампартыяй Кітая, да выступленняў сацыялізму ў народна-дэмакратычных краінах Усходняй Еўропы. У СССР прайшла масавая замена партыйна-савецкіх кадраў". І ўсяго толькі падрыў аўтарытэту Вялікай Ідэі. А тысячы бязвінных ахвяр: за што? дзеля чаго?

Апошнім часам зачасцілі на Беларусь "нінаандрэеўцы", "жырыноўскія". Мажліва, Мінск паралельна з асталяваннем у ім каардынацыйнага цэнтра Садружнасці Незалежных Дзяржаў спакваля набывае ролю штаба па ўзгадненню дзейнасці "ўсесаюзных" партый. Падобна ізноў арандуецца славутая цярплівасць беларусаў, якой спаўна карысталіся партакраты, на руку яна й выдаткам дэмакратычных рэфарматараў. аказалася нялішняй і для неабальшавікоў.

"Нінаандрэеўцы" найбольш "чубяць" апошнія тры дзесяцігоддзі сацыялізму. Сталіна не чапаюць. Але сам прынцып адбору прыхільнікаў Вялікай Ідэі і яе адступнікаў той жа, што напачатку перабудовы. Шляхам дыскрэдытацыі папярэднікаў набыць сабе палітычны капітал. Дык, пэўне, гэта тыя ж самыя "прарабы перабудовы", толькі пакрыўджаныя "здраднікам партыі" Гарбачовым, які не апраўдаў спадзяванняў. Такім чынам, абвінавачваючы дэмакратаў у выраканні сацыялізму, нованароджаныя бальшавікі, гаворачы іхнімі ж словамі, "здраджваюць" сацыялістычнай ідэі не цалкам, а выбарачна, кавалачкамі. Усё, што чынілася да XX з'езда партыі, — сацыялізм, пасля яго — дробнабуржуазны ўплыў, апартунізм і да т.п.

Такім чынам, калі сапраўдныя — "канкрэтна-гістарычныя" — бальшавікі бачылі свой ідэал наперадзе, у будучым, то нованароджаным пераемнікам бальшавізму ён мроіцца ў былым. Але гісторыю не перапішаш нанава. Не выхапіш з гістарычнай плыні зярнятка дый скажаш: "Было толькі яно", а мякіну паціху згорнеш у куточак. Было, было й першае і другое. Прычым зярняты без мякіны не ўзнікнуць. Новыя бальшавікі ўхваляюць перыяд ад стварэння РСДРП да 50-х гадоў за найбольшую ягоную адпаведнасць тэорыі марксізму-ленінізму; нацыянальныя дэмакраты ўспамінаюць рэнесансы мясцовай культуры, мовы, дзяржаўнасці; манархісты прагнуць самадзержца, ідэалізуюць царскую дынастыю, дарэвалюцыйную Расію... Ці ж не час сказаць, што ў грамадстве, гэтаксама як у прыродзе, няма тэхнічна-дыстыляванай вады, не можа ўладарыць абсалютна чыстая ідэя грамадскага ладу. Менавіта сукупнасць разнастайных ідэй, шматаблічнасць дае нам непаўторную асалоду рэальнага, не падагнанага пад догму жыцця.

Калі людзі, што называлі сябе камуністамі, спарадзілі сталінскі рэпрэсіўны апарат, застойныя часы, то, пэўне, дарэмна абараняць ідэю й звальваць усе беды час ад часу на праваднікоў Вялікай Ідэі ў жыццё (маўляў, яны не здолелі захаваць чысціню сацыялізму). Сумленна падумаць, ацаніць, што ж усё-такі спарадзіла падгонка грамадства пад ідэю і ці магчыма ўвогуле без страт ажыццявіць хоць адну якую-небудзь, неабавязкова ідэалагічную, грамадскую схему. І не толькі ў голадзе, галоце, нішчымніцы справа. Бяда і ў тым, што спалітызаваная гісторыя, тэндэнцыйнае навучанне ёй абядніла, проста абакрала нас. Свет людзей і свет ідэй суіснуюць. У спробе ж дакладна да мікрона ўкараніць у чалавечым грамадстве сацыялізм і камунізм, не зважаючы на бясцэнную, незваротную вартасць чалавечага жыцця, бачыцца нейкі працяг барацьбы чалавека з прыродай, з самім сабой, як часткай маці-прыроды.

Спадарства, вы — не бальшавікі. Вы папросту не можаце імі быць, бо для гэтага трэба ні многа ні мала як раскруціць кола гісторыі ў зваротным напрамку на гэту-у-у-улькі гадоў, калі кожнага з вас нат "у планах не было".

Спадарства, вы — не бальшавікі. Вы людзі, якія пацярпелі паражэнне і імкнецеся ўзяць рэванш. Зваротнага шляху няма. Гісторыя з камуністамі сыграла злую штуку. Скінуўшы цара, пераступіўшы праз кроў суайчыннікаў, яны пакрочылі да светлай будучыні, у якой самі аказаліся "на прастоле". Як вынік — зведалі лёс царскай дынастыі. Ці ж не падобныя вінаватасць цара і вінаватасць генсекаў, Палітбюро. І першыя, і другія прыходзілі ў застылую структуру, рушылі ўздоўж наезджанай каляіны. Ідэалізаваць царскую Расію марна, не заўважаць здабыткаў Савецкай улады — несумленна. Бальшавізм — трагічная з'ява, якая вырасла ад расійскіх каранёў, а не таму, што быў такі злыдзень, як Ульянаў-Ленін.

Але вы, спадарства, паўтараю для "нінаандрэеўцаў", не бальшавікі. Хаця б таму, што сапраўдныя бальшавікі заўсёды ўлічвалі гістарычны вопыт, вы ж яго ігнаруеце. Маеце "на руках" 74-гадовую практыку ўвасаблення сацыялізму ў рэальнасць і адмаўляецеся яе ўлічваць. І яшчэ. Калі колішнія бальшавікі пазбаўлялі сябе даброт у выніку барацьбы, то сённяшнія неабальшавікі — найбольш людзі, якія страцілі нешта ў выніку перабудовы. Сёння часам жартуюць пра бальшавіцка-камуністычнае падполле, але ці былі калі-небудзь камуністы не ў падполлі наогул? Уся дзейнасць КПСС, вядомая нам як толькі верхняя частка айсберга, галоўная частка якога была схаваная ў партыйных глыбінях.

Блізасць камунізму да рэлігіі падкрэслівалі і падкрэсліваюць. Але ж былі ў рэлігіі перыяды інквізіцыі і гэта не значыць, што вернікаў стала меней. Былі і застануцца прыхільнікі камуністычнай ідэі, хаця яе запляміла не толькі кроў "класавага ворага", але і сваіх жа "таварышаў па партыі". Адзінае процiяддзе супраць партыі, схільнай для наладжвання карэнных ломак, — надзейны дэмакратычны лад, шанаванне законаў і павага да іх. "Цывілізаваныя нацыі ўстанавілі дэмакратычную форму кіравання як метад вырашэння ўнутраных супярэчнасцей без гвалту. Дэмакратычная форма кіравання, мажліва, мае ўсе недахопы, што прыпісваюць ёй, але яна мае і адну вялікую вартасць: для большасці людзей яна ўяўляе разумную альтэрнатыву грамадзянскай вайне як сродку вырашэння палітычных канфліктаў". Так меркаваў Бертран Расел, які ў 20-я гады наведаў маладую Савецкую рэспубліку. А наконт веры, у тым ліку камуністычнай,.. што ж, у нас — свабода веравызнання.

**Алена Агібалава,**
**рэдактар аддзела палітыкі, гісторыі і эканомікі.**
**тэл.39-87-94.**



## НАША ХРОНІКА

* * *

"ПЕРШАЦВЕТ"– альманах сяброў літаб'яднання "Крыніцы"– падрыхтаваны ў друк і ўжо ўхвалены рэдакцыйнай калегіяй, у склад якой уваходзяць Уладзімір Бельскі (галоўны рэдактар), Алесь Масарэнка (укладальнік і рэдактар выдання), Алесь Пашкевіч (старшыня літаб'яднання), Юлія Алесьніна (сакратар), Уладзімір Клімовіч і Віктар Шніп. У зборніку змешчаны вершы, апавяданні, абразкі і мініяцюры 52 крынічанцаў. Усе гэтыя аўтары беларускамоўныя.

* * *

Трэба сказаць, крынічанцы не спяць у шапку. Таму-сяму з іх (Юрась Пацюпа, Ігар Сідарук) удалося ўжо выдаць свае першыя паэтычныя зборнікі.

Кнігу паэзіі "Нябесная сірвента", аўтар яе Алесь Пашкевіч, прачытаў вядомы паэт, рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Леанід Дранько-Майсюк і прыняў да друку.

Неўзабаве ў свет у бібліятэчцы часопіса "Маладосць" выйдзе першая кніга прозы Уладзіміра Клімовіча "Сістэма Баслі". У стане рэдпадрыхтоўкі ў гэтым выданні знаходзяцца рукапісы зборнікаў вершаў Аксаны Данільчык "Абрыс скарпіёна" і Валерыя Пазнякевіча "Белае рэха".

Блізкія да завяршэння першыя кнігі паэзіі Юры Гуменюка "Вампіравы вочы", Ігара Карповіча "Менскія санеты", Сержука Мінскевіча "Шкляны кут", Кацярыны Мяшковай "Вока каня", а таксама кнігі прозы Юліі Алесьнінай "Зачараваная арфа" і Міры Лукшы "Дзікі птах – Верабей".

* * *

Творы сяброў нашай суполкі сталі бадай што з нумара ў нумар з'яўляцца на старонках штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва". Апошнім часам у гэтым шаноўным выданні, якое святкуе гэтымі днямі сваё 60-годдзе, упершыню выступілі з апавяданнямі Уладзімір Клімовіч і Мікола Касцюкевіч, з вершамі ў прозе – Алесь Давыдаў; чытачы ЛіМа пазнаёміліся таксама з нізкамі вершаў Андрэя Пяткевіча, Алеся Пашкевіча, Анатоля Брусевіча і Валерыя Пазнякевіча.

* * *

24 лютага а 17 гадзіне вядомы мастак Аляксей Марачкін сустрэнецца ў сваёй майстэрні з групай сяброў літаб'яднання "Крыніцы".

Таленавіты чараўнік пэндзля і пяра, прызнаны грамадскі дзеяч раскажа крынічанцам пра свае творчыя планы, пазнаёміць з новымі палотнамі і пачытае вершы.

Рада "Крыніц".



## ПОСТАЦІ ЛІТАРАТУРЫ

### МІХАСЬ СТРАЛЬЦОЎ:

"Кожны па-сапраўднаму таленавіты твор вучыць не толькі таму, як трэба пісаць, але і таму, як не трэба. Вучыся ў выдатнага пісьменніка яго майстэрству, яго глыбіні ў адлюстраванні жыцця, але і вучыся, абавязкова вучыся быць самім сабой, шукай у непадобнасці падобнасць".

С. Н.



Кацярына Мяшкова

## КАХАННЕ

Каханне сакавік мінула —
пачатак перадкавальнічны.
І верасень яго малюнак
знайшоў на беразе пшанічным.

На ім закрэслена між небам
і морам хваля далягляду,
і сіняе крыло нясрэбнае
я з постаццю тваёй прыгадваю.

А пералік пяскоў пастэльны
адсвечвае змяненнем твару.
Яго няўлоўная чытэльнасць,
нібы вачэй маіх ахвярнасць.

* * *

Ты чуў мой голас ручаёвы,
у вуснах выспявалі спевы.
Табе хацелася нанова
пабачыць Бону, каралеву.

Ты бачыў вочы-перазовы —
свята, нібы пасля залевы.
У тваім натхненні каляровым
вужоў я стала каралевай.

Ты меў з маім каханнем змову...
І сэрца — вогненнае дрэва —
адкрыла карані замовы
ператварэння ў каралеву.

* * *

Бераг — пясчаны каток,
калі адбягаюць хвалі.
Мяне ў танцавальны гурток
паблажліва заклікае.

І вецер бярэ пад руку,
цікаўны да бальнай спробы.
А мой танцавальны тур
настойлівы, як хвароба.

Вада адмывае сляды —
адбітак майго імпэту.
З нявдоўжаным танцам тым
на самым краі сусвету.

І роўнядзь пясчаных дзён
з арэхавым мокрым брыжам
маім танцавальным жыццём
была разбуральна ўзвышана.

* * *

На лузе палосамі скошаны ліпень
і бусел вышуквае пахі рамонкаў.
А тыя згубіліся ў сене вялікім,
абвялі на сонцы іх сціплыя гронкі.

Шпакоў у чароды згуртоўвае лета —
у вырай ляцець ім, далёкі і гонкі...
Пыхлівага жніўня таропкая ветласць
тугі і растання трымае пастромкі.

* * *

Дзівацкія твары здзіўлялі неба —
ніхто мой сумны настрой не ўлічваў.
І кожная хмарка плыла малебна,
і падалі ў горы маланкі, як знічкі.

Музыкі мелоды клалі ў кішэні
нястомленых і закаханых танцораў.
Усмешкай вясельнае рэха дрыжэла,
як жартаў тваіх бездакорнасць.

Знайшла навальніца грымотныя дудкі.
Мы танцы ў кішэнях дадому панеслі.
Імгненная ростань, пранізліва-будкая,
згасіла вясельнае крэсіва.

Твой дом з мастацтвам з'еднены.
іспанская палічка,
дзе кастаньеты зведалі
фламенка мазаічнае.
Твой дом з мастацтвам злучаны
гадзіннікам-старэчаю,
які ўжо не агучвае
хвілін сярэднявечча.
Твой дом з мастацтвам сплецены.
На акварэльных конях,
не спыненае лейцамі,
жывых вачэй сутонне.
Твой дом з мастацтвам змушаны
дарыць усім усплёскі
фантазіі закружанай
вышэй звычайнай лёсткі.

* * *

Танюткі гарлачык у стылі мадэрн
са шкла — вёшнёвае сочыва.
Ён кветкі сабраў знарок на манер
лецішчаў несурочаных.

Сцяблінкі натхнёна глытаюць ваду.
І водарам супакойлівым
у твар мне рахмана і вольна дыхнуў
пялёсткавы голаў мройлівы.



дзька няпэўнага
не разгубіўся
пабойваўся такіх
кіх і няўклюдных.
блёў, ляцёркамі...
тут няма,– мах-
ком,– Хто грошы
ыгукнуў і адступіў
іны.
прыццаць капеек,–
ышка, прапішчэла
ынка з банцікамі ў
і рублём?– збіў яе
Дзве пятнаццаткі.
цаці капеек я не
. шапка прапала,–
віка цыбаты стар-
часам яе не знай-
аў ён выскаляцца.
а ты не бачыў
.– спынілася пажы-
ў акулярах, праз
е вочы былі падоб-
ўтабокія слівіны.–
й коцік... Ён чорны,
лбе белая плямка...
падыходзілі новыя
кожны пытаўся:
ілася?..
ся, кот?
оў худы, доўгі, як
вострым носам і
ў:
каць міліцыю!.. Такі
адзе!..
ўка – ледзь
атоўпу. Расшчапіў
– пуста. Як і калі
ель – не помніць...
ы ён мог дзецца,
лак моцна трымаў

*Нашы рэцэнзіі*

# Восень кароткага, адвечнага часу



Сяржук Мінскевіч

Вецер. Не рэзкі, сцюдзёны, мудры. Мерныя хвалі. Белыя. Шэпт і музыка. Ціхая, здалечы. Шапэна? Трагедыйная і пранікнёна-лірычная. Восень. Святочная, маркотная, жаночая. Восень лета, зімы, вясны... Белыя і "празрыста-чорныя", жоўтыя і блакітныя мазкі бясконца зменлівай карціны абстрактнай ці канкрэтна-класічнай...

Свет адчуванняў, які стварае вакол чытача Таццяна Сапач. Нават звычайная назва кнігі "Восень" — само слова восень — падсвядомым успрыманнем атрымлівае іншы сэнсавы (метабалічны) план. ВОСЕНЬ (ВАКОЛ СЕНЬ часу). Часу, што сцякае, сцякае, сцякае. Яму падуладны думкі, настрой, каханне, Я!

Як незвычайна і відавочна, складана і проста паказваецца змяненне бясконцага і замкнутага ў вечнасці часу. І мы — адносна яму, у вершы "Надыдзе снежань...".

Снежань змяняе восень, "адменіцца і дзень, і свет, і дом". А ў люстры жыве мастак павук (час), які змяняе, старыць нас. Як спыніць яго!

*...і я прыцісну мастака да рамы —*
*брунатнай рамы, грубай і старой.*

Але выніку няма, і турбуе пытанне, у адказ на якое кола замыкаецца:

*...Што будзе потым? —*
*будзе ведаць снежань,*
*які пабеліць мой самотны дом*
*і намалюе ў люстры павука,*
*што дзень і ноч бязбожна выплятае*
*бязважкія карункі і ўзоры*
*на твары тонкім, чыстым і ўрачыстым,*
*знаёмым, так... — і, можа быць, маім...*

Вельмі парадаксальны, асабліва для мужчынскага, больш паслядоўнага разумення, кругазварот часу, які прагназуецца памкненнямі жаночай істоты да каханага (сябра) у персанальных (а, можа, гэты вобраз абстрактны) вершах Савелію. Умоўна будучы час: "ты раптам прыгадаеш", ён (можа быць) прыйдзе — пераходзіць у проста будучы: сустрэнемся, "ты спытаеш" — пераходзіць у цяперашні: мроіцца размова, я кажу, "брама не пускае" — пераходзіць ва ўмоўна мінулы (ці бо зараз павінна зрабіцца мінулым, ці ўжо робіцца мінулым): я не люблю вас (не любіла ў гэты момант, бо вы ўжо прыйшлі), "цябе даўно ведаю, праходзь", "зайдите, товарищ, завтра" — сёння ўжо прайшло. А ўмоўна мінулы час дамневае і дапускае ўмоўна будучы. Атрымліваецца: ты, можа, прыйдзеш; прыйдзеш; прыходзіш; прыйшоў — можаш ісці, але, можа, прыйдзеш... Тут вельмі праўдзіва выпісана залежнасць Жанчыны ад часу (моманту) дзеяння.

Таццяна Сапач шчыра раскрывае, агаляе непастаянную і, як парадокс у непастаянстве, заканамерную душу сваёй лірычнай гераіні (сябе). Душа яе, нібы асенні, прагляд-ны наскрозь лес з апалым лісцем.

*Дрэва, поўнае зроку,*
*сцяжына, поўная слыху —*
*насуперак сну і страху,*
*насупраць святла і лёху —*
*і гэта,*
*здаецца,*
*я...*

Форма вершаў быццам балансуе на ледзь прыкметнай грані паміж рыфмаванымі і белымі. Верлібры рытмізаваныя — большасць вольны амфібрахій, што надае плаўнасць і нараджае адпаведную інтанацыю. І таму не згаджаешся з самой паэткай, калі яна ў вершы "Вецер" кажа:

*А я наступаю на горла*
*мудраму беламу вершу*
*і вызваляю з формы*
*дзікі звярыны крык:*
*я не хачу волі!*
*я не баюся кайданаў!*
*я не памру ад самоты,*
*мой паратунак — тут!*

Мова вершаў прыгожая і мілагучная (ніякі не крык). Радкі спяваюць і нават у літаральным сэнсе. Верш "Мы — дзеці чорнага горада" стаў песняй, пакладзенай на музыку К.Камоцкай.

Узбагачаюць моўную думку нечаканыя параўнанні, вобразы:

*...вясёлая варта*
*кароткіх шчаслівых хвілін...*
*...бязлюдныя выспы кавярні...*
*...і неба яшчэ не купалі ў зялёных шатах...*

Напрыканцы, падвынікуем, што кніга Таццяны Сапач "Восень" — душой ранімай створаная кніга. І які боль працінае, калі адчуваеш, як уздрыгвае падараваны нам свет гэтай душы пад тупа бадзяльнымі статкамі прыслугачоў ваяўнічай абыякавасці.

"Але нам не дадзена іншай Радзімы"... — кажа паэтка.

Але нам не дадзена іншай Радзімы — усведамляе кожны, хто не са статка!

І толькі калі адчуваеш сапраўдны фізічны боль, разумееш парадокс, вызначаны Таццянай Сапач:

*І можа таму, што жыццё,*
*нібы міг, кароткае,*
*на беднай,*
*на вечнай Радзіме*
*жыве чалавек.*

---

Сапач Таццяна. Восень: Вершы. Мн. Беларуская асацыяцыя дэтэктыўнага, прыгодніцкага і палітычнага рамана, Беларускае таварыства «Кніга».

*Наш альбом*

**...Ой у лесе, ой у лесе**
**Я сустрэла цябе, мой Алесю.**
**Ой у полі, ой у полі**
**Я сустрэла цябе, мой саколе...—**

спявае Ніна Загарэўская.



Яна піша вершы і прозу. А таксама — аўтар шматлікіх песень як на свае словы, так і на тэксты іншых паэтаў.

Нарадзілася Ніна Альбертаўна ў вёсцы Мікалаеўшчына, вучыцца ў Брэсцкім педінстытуце.



Людміла Рублеўская

## Калядныя вершы

1

Ззяла зорка над начною пусткай,
Быццам першы залачоны цвік.
Аблачыны падалі, як руты,
Прыглушалі немаўляці крык.

"Аве! Аве!" — птушкі праспявалі.
"Аве!" — адгукнулася зямля.
Паўтарала ўсё жывое: "Аве!"
І ў хляву заснула немаўля.

Ну а людзі выбягалі з хатаў,
На балконы выбягалі віл,
Зорку вязні бачылі з-за кратаў,
Бачылі нябожчыкі з магіл.

"Быць вайне!" — няшчасныя шапталі.
"Цар памрэ!" — багатыя раўлі.
А аблокі мякка ападалі
І стваралі руты на зямлі.

І святло, запаленае ўночы,
Бачылі нямногія яшчэ...
...І ў хляву заснуў маленькі хлопчык
Пад сузор'ем матчыных вачэй.

2

Сёння ўночы народзіцца Бог.
Сёння днём не змяніліся людзі.
І валхвы не пратопчуць дарог
Да Марыі па мерзламу бруду.

Я люблю гэты час, і мароз,
Востразорае неба, і шэпат
Аблачын, і няпэўны свой лёс,
І далоні, узнятыя ў неба.

Сёння ўночы народзіцца свет.
П'е гарбату наш госць выпадковы.
Хутка пойдзе — і выстыне след,
І развеюцца горкія словы.

Пра талоны, пра чэргі і сум,
І пра тое, што добра сабрацца
І аднойчы пайсці б у царкву,
Ці палатку паставіць на пляцы.

Словы, словы, частункі душы.
Б'е гадзіннік. Да поўначы блізка.
Толькі ў полымі свечкі дрыжыць,
Як пялёстак, блакітная рыска.

Хутка, хутка народзіцца Бог.
Прыйдзе любасць хаця б на хвіліну.
Хто хацеў даравацъ — і не змог,
Сэрца ў свеце мінулым пакінуў.

Хто не ўспомніў пра свята — сляпы.
Мітусня, хлеб штодзённа — не вечнасць.
Сёння горад — ад зор залаты,
Віфлеем — у каляднай цямнечы.

3

Віхураў час. Любая квецень тут
Імгненна аблятае дням пад ногі.
Але валхвы ідуць, ужо ідуць,
І зорка ззяе ўздоўж святой дарогі.

А над дарогай круціцца віхор,
І крышацца пад ім людскія справы,
І цар памерлы, уваскрос, і зноў памёр,
І на крыжах вісяць адны Варравы.

А зорка праплывае горад наш,
Далей, далей, праз каламуць і сцюжу,
І неба прада мною — як сцяна,
І вецер мне рагоча прама ў вушы.

Не наша бласлаўляецца зямля.
Не нам выратаваўцу біць і вешаць.
Вятры пыляць і вьюць, і пыляць,
Валхвы ідуць.
А мы галосім вершы.



## Віктар Шніп



* * *

Рыпучыя дрэвы, дрыготкія цені
І вецер сцюдзёністы ў парку старым.
Цяпло ад кастра невясёла струменіць,
Нябёсы над горадам — хмары і дым.

Хаджу сярод клёнаў, лісцё падбіраю
І думкі дурныя вярэдзяць душу.
І травы пад лісцем сухім паміраюць,
На мёртвыя травы самотна гляджу.

На дрэвах сядзяць, як святыя, вароны,
Цікаўныя вельмі, цікуюць за мной,
Нібы я нясу залатую карону
Вароне крыклівай — царыцы лясной.

А мне ўжо абрыдла ўсё ў горадзе гэтым
І праца, і чэргі, і нават сябры.
І лета было, ды не бачыў я лета.
Я раннюю восень палю на кастры.

Прыпомніў ізноўку: быў вольным калісьці...
І буду я вольным не толькі што ў сне!
Кідаю ў агонь адшумелае лісце
І дым абдымае, як брата, мяне.

* * *

Чорны крыж ля дарогі стаіць,
Чорны крыж у нябёсах ляціць.
А іуда цалуе ісуса,
А іуда прадаў беларуса.
І за грошы іудавы — пір,
І паўнюткі крывёю пацір.
Шумна рабства святкуючы, людзі
Век жывуць, нібы свінні, у брудзе,
Паміраюць ад гора, нястач.
Паміраеш, ды толькі не плач,
Дзякуй Богу, што ў Ноч адплываеш.
Забіваеш Хрыста, забіваеш
Кожным крокам сваім да крыжа
І маўчыць, нібы камень, душа.
І крычыць над Айчынай цямнеча,
І ў цямнечы гняздзіцца пустэча.

### У скляпенні

Жывуць у скляпенні бяспраўныя людзі.
Як сонца засвеціць — выходзяць на свет.
І па-гаспадарску ля сметнікаў блудзяць,
Шукаючы пляшкі пустыя ў траве.

Гавораць з варонамі і галубамі,
Шкадуюць бяздомных сабак і катоў.
Ля гэтых людзей мы праходзім панамі,
У іх мы не бачым сясцёр і братоў.

Бяспраўныя людзі, бяздомныя людзі
Ад нас адплываюць штодня на клады.
Таксама мы гінем у блудзе, у брудзе,
Ды толькі чамусьці не бачым бяды.

І бюсты герояў валяюцца ў травах...
І мы ўсе жывём у бязбожнай начы...
Мы волі жадаем. І наша дзяржава
Трымаецца Бог яго знае на чым.

### На забытых кладах

Толькі цені прыходзяць з Нябыту
Па сцюдзёных прыступках капліц.
Цені ходзяць па цэгле разбітай
І па шкле. Ім нішто не баліць.
Ды шкада ім забытага Храма,
Ды шкада ім забытых магіл.
А за плотам смярдзючая яма
І дарогі атрутлівы пыл.
Ходзяць моўчкі журботныя цені,
Як грахі нам даруюць — смяцце.
Перад імі нам стаць на калені
І праклясці б сябе і жыццё
За кароткую памяць і здраду,
Здраду родным і блізкім сябрам.
Мы — у чэргах жывём па зарплату,
Мы — у чэргах гібеем ля крам.
Нам здаецца — мы вечныя людзі,
Толькі вечнасці нам не спазнаць.
Крыжык б'ецца аб хворыя грудзі —
Як ахвота сябе ўратаваць!
Да царквы мы прыходзім разбітай,
Каб прад Богам упасці ўсё ж ніц...
Ды насустрач не выйдуць з Нябыту
Нават цені з забытых капліц.

* * *

Ці то вецер гудзіць, ці то ведзьма ляціць,
У нябёсы з дарог, уздымаючы пыл.
Ці то сонца ўзышло, ці то неба гарыць
Над шумлівасцю ніў, над спакоем магіл.

Тут у студнях даўно амярцвела вада
І сабакі ваўкамі зрабіліся тут.
І такая навокал пануе жуда,
Быццам Божы цяпер пачынаецца Суд.

І нікому цяпер даравання няма,
І не будзе ніколі — на роднай зямлі,
Бо разбураны Храм, бо ў законе турма,
Бо сябе прахіндзеям за грош аддалі.

Толькі воран крычыць, толькі сэрца баліць
Над шумлівасцю ніў, над спакоем магіл...
Гэта вецер гудзіць, смерць сляпая ляціць
У нябёсы з дарог, уздымаючы пыл.

## ПОВЯЗЬ

Сёння госць гэтай рубрыкі – Уладзімір Жылка. Гэты чалавек з'явіўся на свет на самым пачатку 20-га стагоддзя, у 1900 годзе. Кропелька Беларусі – нясвіжская вёска Макашы – стала радзімай паэта. У 1914 годзе разам з бацькамі ён пераехаў у Менск. У сувязі з хваробай (сухотамі) лёс закідвае Жылку ў мястэчка Гарадзея, якое пасля заключэння ганебнага мірнага дагавору апынулася пад Польшчай. З Гарадзеі сваякі накіроўваюць Жылку ў Вільню, каб той атрымаў хоць якую адукацыю. Затым – чэшская Прага, вучоба на гісторыка-філалагічным факультэце Карлавага універсітэта.

Друкавацца Жылка пачаў з 1918 года. З першых ягоных вершаў трэба назваць верш "Покліч":

*Пад штандар бел-чырвона-белы*

*Гуртуйся раць, адважна, смела,*

*Адважна-храбрых ваяроў...*

У гэтых хай сабе і не дасканалых радках выявілася нацыянальнае аблічча Жылкі. Апрача нацыянальна-адраджэнскіх, у яго творчасці гучаць філасофскія, пейзажна-лірычныя, інтымныя матывы.

1926 год. Акадэмічная канферэнцыя па пытаннях мовы.- Жылка прыязджае ў Менск і застаецца жыць у Савецкай Беларусі. Працуе ў розных беларускіх выданнях.

Узвышэнца Жылку непрыхільна сустракае "бураленная" бальшавіцкая крытыка. Вось адзін з тагачасных водгукаў на ягоны верш "Меч" на старонках часопіса "Маладняк" (1928): "У сувязі з ідэалізацыяй "прошласьці слаўнай" роднага краю стаіць і захапленьне (Жылкі. – А.П.) наогул усялякай гістарычнай стар'ёўшчынай, аж да археолёгічна-клясычнай старасьветчыны. Вынікае-ж гэтае захапленьне часткаю з рэакцыйнага пракланеньня перад усім старым наогул, часткаю – з прывычкі да трунакапальніцтва...". Надыходзіць 1930 год. Жылку арыштоўваюць адным з першых і асуджаюць на 5 гадоў высылкі ў Вяцкую акругу, дзе паэт і памёр у няволі 1 сакавіка 1933 года.

Алесь Пашкевіч.

## Уладзімір Жылка

### МЕЧ

Яго ў зямлі знайшоў маёй разлогай,
Гаручы прадзедаў вузкі загон.
Вясёлым звонам аказаўся ён,
Калі чапіў яго канцом майго нарога.

Абцёр набожна іржу часу былога,
І заблішчэў старых стагоддзяў сон,
І надпіс на клінку, нібы закон, —
"Да рэшты бой!" — зірнуў загадам строга.

І вось няма нясмеласці, разваг.
Для сэрца вернага — чужынцам страх:
Радзімы схоў вартуйце, маткі, сёстры!

Я з грамадой іду па шчасце нам.
Мой меч зізхіць непераможны, востры.
Змагуся сам — так сотням перадам!

* * *

Душа мая тужлівая
Лілея між балот,
Узрасла яна, маўклівая,
У багні сонных вод.

Ёй сніцца неба іннае,
Дзе сонечна вясна,
І песьняй салаўінаю
Атручана яна.

І нешта патаённае
Шапоча родна ціш,
І ў ночы цёмна-цёмныя
Чаруе зорна выш.

Наўкола ж ціна брудная
І плесня й гідкі пах,
Чыесьці ўздохі трудныя,
Нуда і нейкі жах.

І штосьць незразумелае
Шуміць-пяе чарот,
Чаго не пойме белая
Лілея між балот.

### ПАЛІМПСЭСТ

Ёсць рукапісы, змест якіх сцярты ледзь знаць
Ці на'т другі напісан сэнс бязбожна.
Іх палімпсэстамі прынята здаўна зваць,
І першы іхні змысл пайме не кожны.

Краіна родная! Так сталася й з табой.
Багацце й хараство твае прыроды
І прошласць слаўную змяшаў чужак з гразёй
І словы вывеў гідкія для зводу.

Але народны дух, разбіўшы мур турмы,
Здалеў вяковы бруд паганы змесьці.
І з дзіўнай любасьцю чытаем тое мы,
Што захавалася на палімпсэсце.

### ПЭНТАМЭТР

Келіхі, сябры, паўней! Асыпаюцца яблыняў кветы,
Гіне вясны хараство — бела-ружовы убор.
Дзеці ўздыхаюць па ім, але Мудрага яснасць няўзрушна:
Там, дзе распукваўся квет, к восені выспее плод.
Келіхі, сябры, паўней! Час прызначаны кожнай праяве:
Моладасць прочкі імкне. Сталасьці прыйдзе чарга!

Рада "Крыніц" працуе па панядзелках з 15 да 20 гадзін у грамадскай прыёмнай штотыднёвіка "Чырвоная змена" (Дом друку, Праспект Ф.Скарыны, 77, пакой 112, першы паверх). Тэл. 32-65-46.

Літаратурны выпуск "Крыніцы" вядзе пісьменнік Алесь Масарэнка.

# ТЫ ЧАКАЕШ ДЗІЦЯТКА...





*Рэзка змянілася самаадчуванне. Перасыхае ў горле, здаецца, што мала паветра, хвалююць шматлікія пахі. Напрыклад, учора вельмі прыемна дыхалася водарам спелых суніц, а зараз жа на іх нельга глядзець. Або непераносным становіцца пах шампуню, якім ты так любіш мыць сваю галаву. Хочацца скарынку хлеба і чаго-небудзь незвычайнага — апельсінчыка там, лімончыка, заморскага арэха...*

Што з табою, маё дзяўчо? Здаецца, у цябе пад сэрцам пасялілася штосьці невядомае, пяшчотнае? Ты адчуваеш, як набракаюць твае грудзі і па ўсім целе разліваецца істома асалоды? Няма сумнення – ты чакаеш дзіцятка...

Першае пачуццё ўзнёсласці прайшло. Зараз ты ў разгубленасці. Сэрцайка тваё стракоча.

Ты сказала свайму абранаму, што чакаеш маленькага, а ён насміхаецца і кажа, што гэта не даказана, чыё дзіця. Ты плачаш ад нечаканасці, ад разгубленасці. А ён цябе быццам не заўважае, ды яшчэ і сябрам расказвае, якая ты свавольніца, хочаш на яго зваліць лішнія клопаты

Пачуццё страху пасяляецца ў тваёй душы. Што ж будзе далей? Супакойся, мая птушачка. Не плач, мая зорачка. Давай паспрабуем удзвюх разабрацца ў тым, што адбылося. Першае — здрада. І ў гэтай сітуацыі цьмянее твой ідэал, які, на маю думку, не заслугоўвае слова "мужчына". Не трэба за ім бегаць, прасіць аб нейкай міласці. Хіба ж няма ў цябе гонару? Ён быў у цябе адзіны, жаданы, непаўторны. Тваё сумленне чыстае перад ім і перад тым маленькім, які так добра адчувае сябе там, унутры, пад сэрцам. Зараз у яго закладваюцца зрок і слых, гены нясуць яму свой непаўторны характар... Табе хочацца шкляначку соку? Не адмаўляй сабе, паляжы хвілінку-другую. Занадта не хвалюйся. Хіба ты не выпеставеш яго адна. У цябе столькі волі, жадання...

Па другое. Мама. Ты баішся сваёй мамы, маё сонейка. Табе страшна прызнацца ў сваёй бядзе, у сваёй радасці. Смялей. Памятай, што яна таксама нараджала цябе ў пакутах, і ўсё жыццё жадала табе толькі шчасця. Яна таксама жанчына, і ёй блізкія твае перажыванні. Выберы ціхі надвячорак, калі прыбраны посуд са стала, прыемным пахам разносіцца па хаце водар хрызантэм у вазе ля тэлевізара. Падыдзі да яе, уткніся ў плячо, паплач і скажы ўсё, як ёсць на самай справе. Запомні, што самая першая яе рэакцыя — здзіўленне, потым крык, слёзы — пройдзе, гэта ўсяго эмоцыі. Сэрцам яна з табой. Вы звязаны з ёй той пупавінаю, якую перарэзалі ў час родаў. Вы разам абдымецеся, пагаруеце, але ж і ўзрадуецеся. Як добра, што ў вашай сям'і будзе на аднаго чалавека больш. Ён яшчэ не нарадзіўся, але вы называеце пра сябе яго ўжо маленькім шпачком, які хутка будзе тупаць ножкамі па хаце і тузаць маладога дзядулю за бараду...

А калі няма мамы побач? Так, першая думка пра аборт. Канешне, яшчэ не позна. Але ж падумай, як ты сябе абкрадваеш гэтымі дрэннымі думкамі. У яго, немаўляці, ужо прарэзваюцца ручкі, носік, ножкі, ён вучыцца дыхаць, праўда, яшчэ ў вадзе. Хутка ён будзе нагадваць аб сабе пастукваннямі, калі яму не будзе падабацца ляжаць на бачку або падвярнуўшы ножку. І ўвесь час будзе расказваць табе вечную казку пра жаданне выйсці з цемры на свет. Разумееш, ён жывы там, у невядомай глыбіні жывата, у маленькай абалочцы вадкасці Колькі адчаю будзе ў яго маленькіх вочках, калі ты адрачэшся ад яго, зробіш зладзейства, якое наш Божухна лічыць самым бесчалавечным. Падумай, можа гэта другі Ламаносаў, славуты Эйнштэйн, таямнічы Леанарда да Вінчы, непаўторная Маргарэт Тэтчар або вядомы таленавіты хірург, чые рукі вяртаюць людзям жыццё? А можа гэта будзе звычайная дзяўчынка, падобная, як дзве кроплі вадзіцы, на цябе. Яна будзе таксама цудоўнай маці, як і ты Мне не хочацца верыць, што ў наш трывожны век табе не патрэбна пяшчота, дабрыня. Не, мая кветачка. Не губі сваё здароўе. Набярыся мужнасці. Аборт — гэта ўжо ўсім вядома — хранічныя захворванні, немагчымасць мець дзяцей у далейшым, цяжкія роды і шмат чаго яшчэ.

Суседзі пабалбочуць і забудуцца Яшчэ з падарункамі прыйдуць. Сяброўкі будуць зайздросціць і, уздыхаючы, казаць: "Ну якая ты малайчына. Не, мы ніколі не адважымся. Гэтыя роды, відаць, вельмі страшныя". Так, страшна. Але толькі да таго моманту, пакуль не праб'е час, і ў жывыя дзверы будзе грукаць новае жыццё Здаецца, усё ў душы пераварочваецца, цела ломіцца наўпоперак ад балючых схватак. Ёсць кароткачасовыя перадышкі, калі можна адпачыць ад болю і падумаць аб тым, што хутка, вось вось усё скончыцца, і ты сама станеш мамай Мая зорачка, мая птушачка, крыху цярпення... Пасля родаў так цудоўна. Цела адпачывае, душа перапаўняецца радасцю і ляціць у нябёсы. Хочацца яшчэ раз прайсці праз усе мукі дзеля таго, каб прыгарнуць да сябе цёплы, дрыжачы камячок, з мокрымі яшчэ валаскамі на малюсенькай галоўцы, гладзіць і гладзіць такое кацянятка. А калі прыкладзеш гэтае немаўля да грудзей і бачыш, як яно шукае нешта гарачае і пульсуючае, здаецца, што моцы прыбывае не толькі яму, але і табе. Можна, пэўна, параўнаць кармячую маці з дрэвам, па якому вясною струменіцца гаючы сок, даючы жыццё новым парасткам і галінкам. Жыццё працягваецца — і ты не адна. Чалавек нарадзіўся! Пяюць птушкі, з веку ў век плешчацца мора, на зямлю льюцца лагодныя дажджы. Зычу шчасця табе на доўгія гады!

**Н.Чарнабай.**

# ЗОРКА ПАЛЫН

Яна спынілася каля першай парты:

— Сідарэнка, калі я яшчэ раз пачую ад цябе гэтыя агідныя словы

Сідарэнка ўсміхнуўся і лісліва (во акцёр!) зацягнуў:

— Ала Пятроўна, ды вы ж мяне ведаеце... Ды я... Ды ніколі . больш,— блазан нават перахрысціўся,— свечку за грэх у царкве запалю, вось пабачыце.

От, быццам бы яна і паверыла, але што ты з ім, гарэзай, зробіш?

Званок. Ала Пятроўна задаволена. Зараз урок прайшоў добра — хоць камісію пускай. Ад гэтага на душы было лёгка-лёгка. Выйшла ў калідор, завярнула за рог і слых ударыўся аб нечаканае

— Наша мегера сёння як з ланцуга сарвалася. І чаго яна да мяне чапляецца? Старая дзеўка, уласных дзяцей не нарадзіла, а чужых выхоўвае. Пе-да-гог! — Сідарэнкаў голас змоўк, а потым нехта сплюнуў на падлогу. І расцёр абцасам.

Яна быццам прыліпла да сцяны калідора. І класны журнал задрыжэў у руцэ. Ад шыі ўверх, да твару, да самых каранёў валасоў падымалася чырвань. Хацелася закрычаць уголас, шпурнуць у кут акуляры, затупаць нагамі, разарваць таго Сідарэнку на маленькія кавалачкі. Яна закрыла вочы. Толькі б не заплакаць! Бо "пацячэ" туш, бо яна страціць аўтарытэт, бо ёй нельга, нельга...

Дзякуй Богу, гэта апошні ўрок І яна апране свае шэрыя боты, накіне шэрую хустку, схавае вочы за каўняром і пабяжыць дадому. Апошнім часам яна хутка, амаль бегма, спяшалася дамоў. Школа побач — час трэба эканоміць Хуценька шклянку гарбаты, кавалак булкі, і — за сшыткі. І так кожны вечар

Сёння яна таксама пабегла, распранулася, наліла сабе шклянку гарбаты, а потым... потым раптам аднекуль з глыбіні, з самага нутра вырваўся стогн. Яна плакала. І нікога не саромелася. Бо гаспадыня кватэры паехала да дачкі, а гаспадар пайшоў некуды

Злыдзень, што ён з ёй зрабіў? Бо яна кожны вечар угаворвала сябе, што — шчаслівая, што яе паважаюць калегі і любяць дзеці, што мае цікавую працу, што ёй болей нічога не патрэбна для шчасця... Не ўгаварыла, не. Бо нейкі голас унутры здзекліва смяяўся: "Шчаслівая? Што ж падушка твая мокрая кожную ноч? Што ж ты заснуць не можаш да ранку?"

Некалі смяшлівая, з гумарам і густам, лепшая дзеўка на раёне, першая ў інстытуце. Стыпендыятка, душа кампаніі, зубрыла і весялуха. Кожны вечар — танцы, кавалеры, вучоба давалася лёгка — аж смешна. Па размеркаванню ішла чацвёртая, дзіва што,чырвоны дыплом! А потым — планы, дзённікі, неслух Сідарэнка, праверка з раёна, дыскусія аб Аманашвілі... цікавае жыццё! Яно бегла жвавай такой крынічкай, бегла, бегла, а потым... Адна. Заўсёды адна. З сшыткамі, з часопісамі, з планамі, але — адна. А, між іншым, ужо трыццаць восем. Побач — НІКОГА! І тут на чацвёртым дзесятку яна, дурніца, зразумела, што аддала б усе свае ганаровыя званні за лёгкі дотык мужчынскай рукі...

Яе ніхто сёння не чуе. Не бачыць. І не трэба гуляць у схованкі. Можна выць, бы ваўчыца ў зімовую ноч, можна прысланіцца гарачай шчакой да акенца, можна ўсё. Нельга толькі нічога змяніць. Бо яна ўжо не мае моцы зрабіць свой твар усмешлівым і прывабным, бо не хапае сіл ні на макіяж, ні на какецтва, бо няма часу на спатканні-пацалункі. А мужык жа патрабуе ўвагі, кахання і яшчэ шмат чаго. А яна... яна нічога ўжо не здолее зрабіць.

І таму яе чакае халодны ложак. Халодны, бы магіла. Назаўсёды?

У дзверы зазірнула гаспадыня (І калі яна прыехала?)

— А я ўжо тут, Алачка. Як справы?

(Вельмі дрэнна. Так дрэнна, што крываточыць сэрца).

— Нішто сабе, Ганна Уладзіміраўна. Усё як мае быць.

— От шчаслівая ты! Сёння пра цябе артыкул у мясцовай газеце чытала. Лепшы настаўнік раёна! Гонар які! Ты ж той артыкул схавай, потым унукам паказваць будзеш...

Божачкі, хай бы хто зазірнуў у яе душу, ён пабачыў бы, якая там цемра і горыч! А Панамарова з 8-Б сёння спытала

— Ала Пятроўна, як вы ставіцеся да сексу?

А ніяк не ставіцца Бо не ведае, што гэта такое наогул. І, мабыць, толькі чорная зайздрасць да Панамаровай, якая ўсё-ўсё ведае, штурхнула яе на жорсткі адказ

— Немаўля ты яшчэ. Се-е-кс яе цікавіць. Хай табе часопісы адказваюць, а не я.

Не, трэба шчыра прызнаць — яна прайграла жыццё. Выцекла яе шчасце між пальцаў. Няўжо ўжо позна? Але бывае, і ў пяцьдзесят... дурніца, што ж ты не разумееш, гэта Джэйн Фонда можа ў пяцьдзесят замуж выходзіць, а не нашы жанчыны...

Можа, у "Клуб, каму за 30" схадзіць? Аб'яву напісаць? Што рабіць, Госпадзі?

А пакуль што трэба сшыткі праверыць. План напісаць А калі працуеш, тады на нейкі час некуды знікае глухі сардэчны боль. Але ж гэта толькі на час... На начным небе ўсходзіла зорка Палын

**Ніна Пракопчык.**

# ША! Прыехалі, або Пра тое, аб чым і не здагадваюцца мафіёзі.

Спачатку спрэчка дзвюх жанчын аб кошце беласнежнай блузкі нічым не адрознівалася ад звычайнай базарнай размовы сябровак, якія выпадкова сустрэліся на Камароўцы. Хутка атмасфера наралілася, і абодва бакі, якія поўнасцю правілі ўсе свае галасавыя здольнасці, усё ж сышліся на адзінай лічбе.

У працэсе пошуку камерцыйнага кансенсуса ніхто не заўважыў з'яўлення хударлявага бландзіна ў пацёртай куртцы-варонцы, які злёгку "пацёрся" каля ачага куплі-продажу, а затым паціху адышоў.

...Жанчына ахнула, калі раскрыла сумачку – тонкі парэз бакавой часткі сведчыў аб прафесіянальнай заточцы брытвы. На вачах з'явіліся слёзы.

Але не паспела пацярпеўшая расплакацца на ўсю моц, як непадалёк на руках "варонкі" шчоўкнулі наручнікі. На радасць "без пяці мінут абчышчанай", чацвёра нічым не прыкметных знешне хлопцаў скруцілі злодзея, з кішэні якога выпаў кашалёк...

Хто ж выратавальнікі? Супрацоўнікі аператыўна-пошукавага аддзела. Галоўная задача гэтага зусім новага структурнага падраздзялення міліцыі – барацьба з маёмаснымі злачынствамі з дапамогай нетрадыцыйных метадаў.

У складзе аддзела ў асноўным моладзь, якую, паводле слоў яго начальніка – палкоўніка міліцыі У.Ільянкова (старога і вопытнага сышчыка), трэба яшчэ многаму вучыць. Але ўклад аддзела ў агульную скарбонку выяўленых, раскрытых і прадухіленых злачынстваў даволі значны.

У мінулым годзе супрацоўнікі АПА УУС Мінгарвыканкама раскрылі 580 злачынстваў толькі па лініі крымінальнага вышуку. У сферы эканомікі выяўлены 162 злачынствы. А яшчэ супрацоўнікі АПА выявілі і затрымалі 11 груп вымагальнікаў.

Што ж за нетрадыцыйныя метады ў іх? Вядома, ні адзін аператыўнік не падзеліцца прафесійнымі тайнамі. Каб хоць як-небудзь задаволіць цікаўнасць чытачоў (не рызыкуючы разгнявіць вышукнікоў), прыадкрыю заслону.

Эфектыўнасць і дзейснасць вышуку залежаць перш за ўсё ад майстэрства і вопыту. Гранічная сабранасць і неардынарнасць мыслення забяспечваюць поспех на 99 працэнтаў. "Сфатаграфаваць" набліжэнне кішэнніка да ахвяры і траекторыю ляза або брытвы – гэта яшчэ не ўсё.

Неабходна бачыць усе дэталі злачынства, каб пасля затрымання прад'явіць бясспрэчныя доказы. Бо зараз злодзей хітры як ніколі. І своечасова "скінуць" апустошаны кашалькі ён умее.

Метад асабістага вышуку дае магчымасць выканаць многія задачы. Гэта і пошук злачынцаў, і "абмацванне" ніткак, якія звязваюць злачынныя групы, і многае іншае.

Дзень сённяшні – час чэргаў, а гэта выдатная прынада для злодзея. Сумбур і скандалы ў іх – для яго добрыя памочнікі. Ён не цікавіцца ўсім тым, што знаходзіцца на прылаўках, уся яго ўвага на сумках і пакетах тых, хто цярпліва чакае."Вылічае" ахвяру, робіць ход... А далей ход у адказ вышукнікоў.

Зусім нядаўна былі затрыманы злачынцы, якія рабавалі кватэры. Падрабязнасці пакуль прапусцім – ідзе следства. Скажу толькі, што "павязалі" іх пры збыце крадзенага, прычым злачынства было раскрыта яшчэ да паступлення ў міліцыю заяў пацярпеўшых. Такое бывае даволі рэдка, і ў міліцэйскім асяроддзі лічыцца сведчаннем высокага прафесіяналізму.

– Ды не маё гэта, начальнік! – спрабаваў пераканаць вышукнікоў малады хлопец, знерваваны паказваючы ў бок скрутка з дэфіцытнымі таварамі.

– Віця, не трэба гэтых фокусаў,– спакойна адказаў "опер" і тут жа "на пальцах" даказаў віну злодзея. Той засумаваў.

Так, гэтых самых "фокусаў" хапае. За кожным з іх – процьма сіл, поту, а то і крыві супрацоўнікаў міліцыі. І галоўнае не тое, што скажа юны "мафіёзі" – па яго справе ўсё зразумела. Проста міліцыянер, які ў бацькі падыходзіць хлопцу, спрабуе па-добраму пераканаць яго, што не тым шляхам пайшоў. Жыццё ж для яго толькі пачынаецца.

Сярод шматлікай пошты, што паступае на імя начальніка УУС Мінгарвыканкама, ёсць розныя лісты. Вось радкі аднаго з іх:

"Шаноўны таварыш Піліпенка, піша вам работніца Мінскага гадзіннікавага завода. Шчырае дзякуй вам за працу вашых супрацоўнікаў, якія вярнулі мне выкрадзеныя ў ГУМе грошы..."

І лістоў такіх нямала.

С.Рачыла,
супрацоўнік УУС Мінгарвыканкама.



## ІНФА-КРЫМ

### Добрай ночы

можна нарэшце пажадаць жыхарам Фрунзенскага раёна г.Мінска. Супрацоўнікі гарадскога крымінальнага вышуку выявілі і затрымалі групу падлеткаў, якія на працягу студзеня-лютага гэтага года абрабавалі тут шэраг кватэр. Частка выкрадзенага канфіскавана, вядзецца следства.

### "Трэцяя змена"

У той час, як некаторыя беларускія заводы, у прыватнасці "Гомсельмаш", спыняюцца, на шэрагу мінскіх прадпрыемстваў праца кіпіць літаральна ноччу і днём. Напрыклад, трое рабочых Мінскага аўтазавода, адпрацаваўшы дзённую змену, ноччу спрабавалі выкрасці з тэрыторыі 15 колаў для "МАЗа". А на кандытарскай фабрыцы "Камунарка" міліцыянеры Ленінскага РАУС затрымалі двух злодзеяў, якія выкралі з аднаго з цэхаў 20 кілаграмаў сметанковага масла.

### "Абрабаванне стагоддзя"

Якія часы, такія і злачынствы. Так можна перафразаваць словы класіка, пераклаўшы іх на нашу рэчаіснасць. А злачынствы цяпер бываюць самыя розныя. Днямі супрацоўнікі Цэнтральнага РАУС сталіцы затрымалі двух рабаўнікоў: 40-гадовага Д. і 20-гадовую Ч., раней неаднаразова судзімых, у цяперашні час бомжаў. Ноччу яны абрабавалі прахожую бабульку... на 4 рублі.

### Жудасны "падснежнік"

знайшлі мясцовыя жыхары днём 16 лютага непадалёк ад шашы "Масква—Брэст" у раёне вёскі Рудня: з-пад талага снегу выглядаў напалову разложаны труп мужчыны. Хутка было ўстаноўлена, што гэта Б., жыхар аднай з суседніх вёсак, які ў кастрычніку мінулага года прапаў без вестак. Паводле заключэння экспертызы, смерць настала ў выніку наезду легкавой аўтамашыны.

### Прывітанне ад мафіі

атрымаў адзін з супрацоўнікаў Кастрычніцкага РАУС Мінска. У ноч на 17 лютага ў вайсковым гарадку Мачулішчы ўгналі яго машыну "Жыгулі".

### Хапіла ж сіл!

На мінулым тыдні быў абрабаваны дачны дом у вёсцы Пціч Мінскага раёна, які належыць жыхарцы Мінска. Выкрадзены тэлевізар, дыван, 20 літраў яблычнага віна, шматлікія варэнні і саленні, паўтара цэнтнера бульбы, 50 кілаграмаў сала і 40 — мяса. Застаецца толькі здзіўляцца нахабству і сіле рабаўніка, які здолеў усё гэта выкрасці.

### Дзякуй інфляцыі

У ноч на 16 лютага невядомы пранік у дом жыхаркі вёскі Вяліцічы Барысаўскага раёна, адкуль выкраў некалькі ювелірных вырабаў, 3000 рублёў, 1500 купонаў, а таксама ашчадныя кніжкі на 26 тысяч. Суцяшае адно: калі раней злодзей мог бы набыць на гэтыя грошы як мінімум дзве аўтамашыны, то цяпер яму іх надоўга не хопіць.

### "Арляняты" навучацца лятаць...

У мінулыя выхадныя была ўчынена спроба "падрэзаць крылы" беларускім "арлянятам": два нядобрыя дзядзькі выкралі 8 лыжкаў з аднаго з карпусоў піянерскага лагера "Арляня", аднак былі затрыманыя. Такім чынам, ёсць падставы лічыць, што "арляняты" ўсё ж навучацца лятаць (працяг вы ведаеце).

У бюро дзяжурыў П.Сіманаў.

*Сцэнкі абсурду*

## ГІСТОРЫЯ ТАНКЕТКІ



мал. В.Саковіча

Аднойчы танкетцы стала сумна і яна вырашыла пайсці ў манастыр. У манастыры ёй стала сумна ўтрая, бо тут прыйшлося пасціць. Тады танкетка ўспомніла сваё басотнае дзяцінства і спляжыла манастыр на горкі яблык. Пазбаўленая апошняга сродку існавання танкетка апынулася на панелі. Тут яе падабраў камерсант, які гандляваў цукерачнымі абгорткамі. Удала падабраная абгортка зрабіла танкетку ўраз сусветна вядомай і канкурэнтназдольнай. Больш яна не сумавала, а зруйнаваны манастыр стаў знакаміты тым, што калісьці яго спляжыла сусветна вядомая танкетка.

Ігар Сідарук.

*Вайсковы фальклор*

- Гэй вы, утрох. Хадзіце абодва да мяне. Чаго глядзіш, я табе кажу.
- Усіх адсутных паставіць у адзін шыхт.
- Што за свіння тут натаптала? Карова, ці хто?
- Калі згубіце напрамак — шукайце ракету.
- Ангіна, кажаш? Статуты трэба вывучаць — горла хварэць не будзе.



- Наступленне пачынаем увечары, на світанку.
- Спачатку пойдуць людзі, а потым паедзем мы.
- Ядзерная бомба заўсёды трапляе ў эпіцэнтр.
- Павывесці б вас у поле... паставіць тварам да сцяны... ды і пусціць кулю ў лоб!!!
- Танкі наступаюць невялікімі групкамі, па двatры чалавекі.
- Боты трэба чысціць увечары. Каб з раніцы апранаць іх на свежую галаву.
- Дакладайце пра наяўнасць байцоў. Хто не ўсе, таго пакараем.

* * *

Лейтэнант Сміт правёў ноч з прастытуткай. Раніцай апрануўся і накіраваўся да дзвярэй.

— А грошы?— спытала дзяўчына.

— Міс, афіцэры грошы не біруць.

* * *

У цягніку едзе вайсковец. Ён здымае боты, затым шкарпэткі і рыхтуецца да сну. У купэ ўсе заціскаюць насы і адзін з пасажыраў пытаецца ў вайскоўца:

— Шаноўны, вы шкарпэткі мяняеце?

— Толькі на гарэлку!



*Забытая «слава»*

## МЕХ БУЛЬБЫ





Мо каму і дзіва дзіўнае, а я асабіста ўжо прызвычаіўся, што ва ўсіх куточках краіны бульба — самы што ні ёсць дэфіцыт. Не здолееш усю зіму яе захоўваць як след, то ідзі на базар, па кіло ці па два нясі дахаты ў кожную нядзелю. Калі, зразумела, грошай шмат маеш.

Той жа клопат меўся і ў афіцэраў нашага гарадка. А як найболей — то ў жонак. Хаця мо нават і вастрэй усе праблемы адчуваліся, чым мясцовым жыхаром. Хто з Беларусі, той кілаграм і за "чырвонец" пойдзе купляць. Што ні кажы, сапраўды бульба — другі хлеб.

Разумеюць гэта і прапаршчыкі, і лейтэнанты, і палкоўнікі... Не ведаю, ці турбуюць зямныя клопаты генералаў, а вось (найбольш патрабавальную) палову іх шчаслівых сем'яў... Ізноў зразумелая справа — хто на кухні гаспадарыць, хто стравы там загадвае?..

Наш начальнік палітаддзела, відаць, думкі генеральскіх жонак на адлегласці чытае. Бо як толькі хто ў цэнтр збіраецца, то адразу даручэнне дае:

— Заедзь, хлопец, на склад, прыхапі мяшочак бульбачкі. А ў штабе корпуса зазірні да генерала Паўленкі ды скажы, што, маўляў, Іван Мікалаевіч перадаў... А сам мех на кватэру яму завязеш...



Ні кожнаму, зразумела, справу такую даручаў наш галоўны дывізійны нампаліт. Часцей — старшаму лейтэнанту Васілю Рыхнусаву. Пасаду той займаў важкую — старшы інструктар палітаддзела па культурна-асветнай рабоце. Адукацыю таксама меў адпаведную. Ведае, як падысці. Перад кім і як дзверы адчыніць. Раней гонар выконваць "бульбяныя" даручэнні меў і камсамольскі работнік Павел Піліпавіч Гарбузоўскі. Улетку ж яшчэ і памідорчыкі вазіў, тады-сяды вінаград....

Васіль — у гэтай справе навічок. Вось і даводзіцца Івану Мікалаевічу перад кожнай паездкай даваць падначаленаму падрабязны інструктаж: як ступіць, як у кватэру ці ў гараж мех унесці. І як тактоўна, неўпрыкмет (але ж, каб пачулі!) падкрэсліць, што гэта, маўляў, Іван Мікалаевіч перадаў. Васіль — чалавек творчы. Ён і пры чужых мірганнямі ды эээпавай мовай усё можа перадаць, сказаць, даць зразумець.

Апошнім разам начальнік палітаддзела інструктаж наладзіў асабліва доўгі. Прычынай — новы камандзір корпуса генерал Каленкаў. Чалавек відны. Жывата вялікага, як у астатніх генералаў, няма. І ростам выйшаў. Сапраўдны генерал.

...З камкорам Васіль сутыкнуўся на лесвіцы. Васіль праявіў знаходлівасць...

— Таварыш генерал-лейтэнант, я вам фотаздымкі прывёз з дывізіі...

— Ну, дык давайце ж, — памякчэў позіркам генерал.

— А яны — у машыне, — шукаў далейшага ратунку афіцэр.

Васіль хацеў было нешта яшчэ дадаць, але ўніз па прыступках спускаўся другі генерал.

— Таварыш старшы лейтэнант, я вас чакаю... Дзе фотаздымкі?

— Таварыш генерал-лейтэнант, я перабльтаў... Я толькі мех бульбы прывёз...

— Ад каго?

— Іван Мікалаевіч перадаў...

Генерал не спахмурнеў, не памякчэў, застаўся ранейшым — незразумелага настрою.

Трэніроўка! Падначаленыя нічога не павінны не заўважаць, не разумець.

— Скажыце вашаму Івану Мікалаевічу, што мне нічога не трэба, у мяне ўсё ёсць... Адвязіце мех бульбы назад.

Павярнуўся. І пайшоў назад... Але ж, відаць, таму назад, што пагубіўся — і да "Волгі" сваёй службовай.

Стомлена паплёўся і Васіль да сваёй машыны. Плюхнуўся на сядзенне.

— Паехалі...

Машына тарганулася, праз якую сотню метраў застыла на перакрыжаванні дарог.

— Куды?.. На кватэру да камкора, таварыш старшы лейтэнант?.. — завучана пацікавіўся вадзіцель.

— Ды ідзі ты... — Рыхнусаў хацеў было вылаяцца, але ваенная культурна-асветніцкая адукацыя стрымала. — У дывізію...

А ехаць жа ўсяго хвілін пятнаццаць. Васілю хацелася расцягнуць іх на ўсю будучую службу... "Нічога ж і не было, здаецца... Ну і генерал... Яму ж не хабар, а мех бульбы... Дзівак-чалавек... А мо яму з іншай часці возяць?".

Алесь Карлюкевіч.

Дзяжурны рэдактар А. КАМІНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ

Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.

ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.

Індэкс 63906. Тыраж 19050.



Зак. № 8.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12